Спецыяльны нумар

№ 30 (867) 13 жніўня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Статкевіч

## У еўрапейскай краіне не павінна быць палітвязняў

12 жніўня споўнілася 58 гадоў палітвязню, быламу кандыдату на пасаду прэзідэнта Міколу Статкевічу. Тым, хто ў 2010-м прагаласаваў менавіта за яго, не сорамна за свой выбар. Пасля Плошчы бясстрашнага палітыка асудзілі на шэсць гадоў зняволення. Але не зламалі ягоны дух. Статкевіча прымушалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, аднак ён не пайшоў на кампраміс з сумленнем.

**Фота на вокладцы:** акцыя салідарнасці з палітвязнямі на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, 21 кастрычніка 2011 года. Праз імгненне плакат з партрэтам Міколы Статкевіча будзе вырваны з рук актывіста супрацоўнікам міліцыі ў цывільным.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# У «Драздах-2» папаўненне

Апошні ўчастак атрымаў **Валянцін Шаеў**, у суседнім раёне селяць **Алену Кудравец**.

За апошнія некалькі гадоў беларускія чыноўнікі атрымалі больш за 40 зямельных надзелаў у сталічным раёне Вяснінка. Міністры, сілавікі, адстаўнікі... Падрабязней пра новых жыхароў «Драздоў-2» «Наша Ніва» распавядала ў №21 ад 4 чэрвеня.

Пасля той масавай раздачы свабодным заставаўся толькі адзін надзел. Гэта апошні ўчастак на вуліцы Сёмкаўскай, па суседстве з міністрам унутраных спраў Ігарам Шуневічам.

Як стала вядома «НН», у пачатку красавіка 2014 года надзел плошчай 0,12 га ўсё ж знайшоў гаспадара. Паводле рашэння Мінгарвыканкама, ім стаў старшыня Следчага камітэта Валянцін Шаеў.

Чым адметны гэты сілавік? Гэта адзін з нямногіх чыноўнікаў, у афіцыйных біяграфіях якіх адсутнічае інфармацыя пра дакладнае месца нараджэння. «Нарадзіўся ў 1964 у Віцебскай вобласці» — дзіўная таямнічасць. Такія ж фармулёўкі ёсць толькі ў біяграфіях старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка і былога разведчыка, а цяпер міністра замежных спраў Уладзіміра Макея.


Будоўля ў Вяснінцы ідзе поўным ходам

Сяргей Гудзілін


Старшыня Следчага камітэта Валянцін Шаеў.


Генеральны дырэктар БКК Алена Кудравец.

У 27 гадоў Шаеў скончыў БДУ і пачаў працу следчым у пракуратуры. Праз сем гадоў ён стаў пракурорам Расонскага раёна, а яшчэ праз пяць — Віцебскага раёна.

У 2006 Шаева павысілі ў пасадзе і забралі ў Мінску ў Генеральную пракуратуру. У сталіцы ён стаў начальнікам упраўлення па наглядзе за расследаваннем крымінальных спраў. Пасля была яшчэ праца пракурорам Гомельшчыны (з 2009 да 2012) і, нарэшце, вяртанне ў сталіцу на пасаду намесніка старшыні Следчага камітэта.

А калі ягонага начальніка Валерыя Вакульчыка забралі кіраваць КДБ, Следчы камітэт узначаліў Шаеў.

Чыноўнік пачаў абжывацца ў Мінску яшчэ падчас першага пераезду ў сталіцу. Уступіў у жыллёвы кааператыў, пабудаваў кватэру. Вось толькі пажыць у ёй фактычна не паспеў, бо быў накіраваны ў Гомель.

Цяпер жа Шаеву перапала 12 сотак элітнай зямлі ў Мінску. Ён атрымаў яе ў пажыццёвае валоданне з правам перадачы ў спадчыну. Афіцыйная кадастравая цана ягонага надзела перавышае $230 тысяч. Рэальная рынкавая — даходзіць да $600—700 тысяч. Гэта заробак чыноўніка ўзроўню Шаева за некалькі дзесяцігоддзяў.

Нядаўна Валянцін Шаеў прапанаваў увесці дадатковую адказнасць для занадта багатых чыноўнікаў. «Такая адказнасць магла б быць у выглядзе спагнання ў даход дзяржавы маёмасці, памер якой значна перавышае даходы чыноўніка і паходжанне якой гэта службовая асоба не можа пацвердзіць». Залатыя словы.

Шаеў атрымаў зямлю сёлетнім рашэннем Мінгарвыканкама №778, а папярэднім рашэннем надзел пад будаўніцтва перадалі яшчэ адной прадстаўніцы ўлады, генеральнай дырэктарцы «Беларускай калійнай кампаніі» Алене Кудравец. Цікава, што і рэгістравалі сваю нерухомасць яны амаль адначасова, з розніцай літаральна ў 15 хвілін.

Кудравец не хапіла месца ў «Драздах-2», таму яе пасялілі крыху далей, у мікрараёне Ржавец («Лебядзіны»). Гэта месца паміж «Мінск-Арэнай» і рынкам «Ждановічы», за кіламетр ад Вяснінкі. Тут катэджы чаргуюцца з нававбудамі-шматпавярховікамі, таму і зямля каштуе танней. Надзел Алены Кудравец плошчай 10 сотак афіцыйна каштуе $160 тысяч.

Бізнэс-вумен зрабіла кар'еру на «Беларуськаліі», дзе працавала 20 гадоў пасля заканчэння юрыдычнага факультэта БДУ ў 1992-м. Казалі, што Кудравец ніколі не была прыхільніцай сумеснай працы з Расіяй, таму пасля калійнага канфлікту кіраваць Беларускай калійнай кампаніяй прызначылі менавіта яе.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

**Бандарэнка прысуджаны да трох гадоў калоніі**

Кіраўніка праваабарончай арганізацыі «Платформа» Андрэя Бандарэнку абвінавацілі ў хуліганскіх дзеяннях. Ён збіраецца абскарджваць прысуд.

**Непаўналетняя на «Аўдзі» збіла веласіпедыста**

Вяртаючыся з возера пад Кобрынам на бацькавай машыне, 17-гадовая дзяўчына збіла веласіпедыста. Той памёр на месцы. Дзяўчына была цвярозай, але правоў не мела — замаладая яшчэ. Крымінальная адказнасць пагражае і ёй, і яе бацьку, які даў ключы ад машыны.

**Камунальныя паслугі даражэюць амаль на 10%**

Праз рост сярэдняй зарплаты вырасце і камуналка. Падаражанне закране тарыфы на электраэнергію, газ, ваду, а таксама тэхнічнае абслугоўванне і адлічэнні на капітальны рамонт.

**Майдан разышоўся**

Рух транспарту ў цэнтры Кіева на ўсіх прылеглых да Майдана вуліцах адноўлены. Барыкады канчаткова разабраныя, жыхары намётавага мястэчка забралі свае рэчы і раз'ехаліся па хатах. Намёты стаялі ў цэнтры ўкраінскай сталіцы з 21 лістапада 2013 года. Акцыя пратэсту прывяла да звяржэння рэжыму Віктара Януковіча.

**УШ**

## Апытанні на nn.by

**У супрацьстаянні Захаду і Расіі хто пераможа?**

| | | |
|---|---|---|
| Захад | 838 | 48% |
| Пераможцаў не будзе, прайграюць усе | 392 | 23% |
| Амбіцыі Расіі не ідуць далей за краіны былога СССР, яна спыніцца на яго межах | 203 | 12% |
| Захад будзе сыходзіць ад барацьбы | 150 | 9% |
| Расія | 129 | 8% |

Прагаласавала 1712 чалавек

# Брагін прырастае, Тураў вымірае

У якіх гарадах самая **высокая нараджальнасць** і смяротнасць?

Белстат апублікаваў дадзеныя аб нараджальнасці і смяротнасці ў гарадах і гарадскіх пасёлках краіны за 2012 год. На 1000 чалавек насельніцтва тады нарадзілася 12,2 дзіцяці, а памерла 13,4 чалавека. Дарэчы, у 2013 годзе лічбы палепшала.

**Топ-7 гарадоў з самай высокай нараджальнасцю**

1) Лагойск — 18,7 народжаных на 1000 чалавек
2) Косава — 17,2
3) Іванава — 16,8
4) Маларыта — 16,7
5) Жлобін — 16,6
6) Жыткавічы — 16,6
7) Заслаўе — 16,5

Апроч таго, высокая нараджальнасць фіксавалася ў некаторых беларускіх пасёлках гарадскога тыпу. У абсалютных лідарах Брагін — 21,3. У гэтым мястэчку быў зафіксаваны і самы вялікі прырост насельніцтва.

Адваротны прыклад — Тураў. У адным з самых маленькіх беларускіх гарадоў найменшы каэфіцыент нараджальнасці (8,5) і найбольшыя лічбы смяротнасці.

**Топ-7 гарадоў з самай высокай смяротнасцю**

1) Тураў — 21,4
2) Дзісна — 18,2
3) Ветка — 18
4) Васілевічы — 17,5
5) Верхнядзвінск — 16
6) Хойнікі — 15,5
7) Ельск — 15,2

**ЯМ**

## Самае чытанае на nn.by за 6—12 жніўня

1 Паліна Шуба: гісторыя ўзлёту спадарожніцы Аляксандра Лукашэнкі
2 Стала зразумела, чаму тэрарысты не пускалі міжнародных экспертаў да збітага пад Тарэзам Боінга
3 У Мінску на пляжы Цнянскага вадасховішча збілі сямейную пару
4 Пуцін забараніў увоз харчавання з Захаду. Беларускіх аграрнікаў чакаюць залатыя часы
5 Сямён Слепакоў: Купі г***ўно і падтрымай Расію — відза
6 Інтымная відэазапытанка на пляжы Цнянскага вадасховішча
7 У праваслаўнай кнігарні прадаецца кніга пра Стралкова
8 Пуцін парасіў Лукашэнку з разуменнем паставіцца да расійскага байкоту
9 У Мінску прайшоў устаноўчы з'езд «Краёвага згуртавання ліцвінаў»
10 У Мінску транспартны калапс праз залеву — фоты

# Бацька Статкевіча: **Дык кагэбіст працягвае руку і кажа: «Віншую»**

Бацька Міколы Статкевіча, Віктар Паўлавіч, жыве ў Баранавічах, у мікраёне Паўночны. Побач — ТЭЦ, новы касцёл, лядовы палац. Вуліцу Жукава адшукалі адразу, а вось патрэбны дом — ніяк. Вось Жукава, 12 корпус 1, корпус 2, корпус 3. А вось дома 12а нават мясцовыя не ведаюць. На дапамогу прыйшоў журналіст газеты Intex-press Алесь Гізун. Савецкая панэлька, насупраць рабочыя кладуць асфальт, кватэра Статкевіча-старэйшага на другім паверсе.

Дзверы ўжо адчыненыя насцеж, нас чакаюць. Заходзім унутр, і Віктар Паўлавіч крэпка паціскае руку. У вачах радасць, што пра яго не забываюцца, прыязджаюць. «Яму вельмі важная ўвага», — узгадваю словы Марыны Адамовіч, сказаныя перад паездкай.

Віктару Статкевічу 87 гадоў. Гады, канечне, даюць пра сябе знаць: «Памяці ў мяне ўжо ніякай няма», — усміхаецца ён. І ўвогуле, усе ягоныя аповеды суправаджаюцца ўсмешкай. Толькі аднойчы голас па-здрадніцку зрываецца на слёзы: «Мне часам здаецца, што я так тут і памру адзін, не дачакаўшы Міколы з турмы». Але праз імгненне ён супакойваецца.



У зале — стары сервант з фотамі сыноў Мікалая і Аляксандра, унучкі Кацярыны і праўнука Ліянэля. Зверху сямейны герб Статкевічаў, вінтажны тэлевізар, галінкі вярбы. А таксама мноства кніг. Найперш па гісторыі: у свой час Віктар Паўлавіч сачыў за ўсімі кніжнымі навінкамі ў гэтым кірунку.

Па адукацыі ён — гісторык, скончыў завочна Мінскі педінстытут, а пасля працаваў настаўнікам. Спачатку ў Пінскім раёне, а потым дабіўся пераводу на Случчыну. У суседнюю з роднымі Пятніцамі вёску Лядна. У школе настаўніцай рускай мовы і літаратуры працавала і маці Мікалая.

На стале раскіданыя здымкі сына розных гадоў. Зусім малы Міколка ў паліто і фуражцы пазіруе з дзіцячым гармонікам у руках, пры гэтым гарэзліва ўсміхаючыся вачыма. «У іх з братам паўтара года розніцы. Вельмі сябравалі, а яшчэ чыталі запоем. Маці іх спаць пакладзе, дзверы зачыніць, а яны зноў святло запаляць ды чытаюць начамі».

**Дзед Статкевіча быў актывістам КПЗБ, а ў Савецкай Беларусі яго расстралялі ў Курапатах. А другога дзеда забілі паліцаі ў апошні дзень адступлення**

Школу Мікола скончыў з адной чацвёркай у атэстаце. «Вучыўся ён вельмі добра. У нас у школе было 23 настаўнікі, і 18 з іх пісалі ў ЦК і Вярхоўны Савет лісты на нашага дырэктара, каб яго знялі. Але ж мы не камуністы, а ён камуніст. Дык яму пісьмо назад дасылаюць, каб разабраўся з намі. А чацвёрку Мікола атрымаў па астраноміі, якую вяла жонка дырэктара».

Бацька кажа, што сын з дзяцінства не ішоў па пратаптаных сцежках, а знаходзіў сваю, асаблівую. «Добра памятаю, як аднойчы ў настаўніцкую прыйшоў завуч, ён вёў геаметрыю, ды кажа: «Твой сын адмаўляецца даказваць тэарэму, як я яго вучу. Робіць па-свойму. Спачатку я ўсміхаўся, але ён раней нас даказаў». Мне было вельмі прыемна гэта чуць».

Падобная гісторыя здарылася з Мікалаем, калі ён паступаў у ВІЗРВ (Вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча) і здаваў экзамен па фізіцы. Рашэнне задання ён ведаў, а вось умовы не супадалі. У выніку абітурыент наважыўся падысці да выкладчыка ды сказаць, што ў заданні памылка. «А як бы вы рашылі?» — запытаўся экзаменатар. Абітурыент прадэманстраваў свой варыянт, у выніку пісьмовую работу ён нават не здаваў, так атрымаў «пяць».

**Цытата**

«Я задаю пытанне чалавеку, кандыдату, які пабаяўся сюды прыйсці, чалавеку, які займае пасаду прэзідэнта нашай краіны. Калі верыць БТ, у цябе завоблачны рэйтынг, а ў нас ніжэй за плінтус. Тады чаго ты баішся, у чым праблема? Праўдзі сумленныя выбары і дакажы ўсім сваю перавагу. Вазьмі і адмяні папярэдняе галасаванне, пусці нашых прадстаўнікоў ва ўсе выбарчыя камісіі і публічна праўдзі падлік бюлетэняў. Дакажы нам нашу нікчэмнасць. І тады мільярды даляраў і еўра пойдуць з Захаду ў беларускую эканоміку. І тады прэм’ер-міністры і прэзідэнты нармальных краін будуць не бегаць ад цябе, а наадварот, у чаргу выстройвацца, каб да цябе прыехаць. Праўдзі — і ўсё будзе нармальна. Але ты ж баішся. І не трэба нам «ля-ля» тут пра свой круты рэйтынг. Гэты рэйтынг у цябе даўно ўжо глыбока апаў і безнадзейна».

**Мікола Статкевіч на дэбатах у эфіры БТ перад выбарамі-2010**

У Баранавічы Статкевічы пераехалі ў 1974-м. Перацягнула жонка, бо ў яе тут жылі сёстры і брат. У пачатку 1980-х спадар Віктар паехаў на заробкі ў Комі АССР, працаваў будаўніком. «Я праз гэты паўночны стаж добрую пенсію маю, дапамагаў грашыма сынам».

На іншым здымку Мікалай Статкевіч ужо ў вайсковай фуражцы, малады падпалкоўнік. Гэта пачатак 1990-х, пераломны этап у біяграфіі Статкевіча. Падчас жнівеньскага путчу ГКЧП Мікалай Статкевіч з трыма паплечнікамі са зброяй прарываецца на радыё ды звяртаецца да грамадзян Беларусі, кажа, што адбываецца нелегітымны захоп улады. «Мне ён нічога не расказваў, — кажа бацька. — Сябра ягоны пазней расказаў, што яны былі падрыхтаваны маральна, што жывымі адтуль не выйдуць». Тады Статкевіч быў першы затрыманы супрацоўнікамі КДБ. «Чэкіст яму сказаў: «Па вам турма плача». А праз колькі хвілінаў па радыё перадалі, што ГКЧП пацярпела паразу. Дык кагэбіст працягвае руку і кажа: «Віншую».

Пытаюся, ці не адгаворвалі бацькі сына займацца палітыкай? «Канечне, спрабавалі. Але ён сказаў, што гэта ягоны свядомы выбар. Мы добра ведалі, што такое палітыка. Жончын бацька быў актывістам КПЗБ, а ў Савецкай Беларусі яго расстралялі ў Курапатах. Прозвішча ягонае Гарбавец. Майго бацьку забілі паліцаі ў апошні дзень адступлення. Партызаны прыходзілі ў вёску ды забіралі мужыкоў рэзаць тэлеграфныя слупы. Самі не рэзалі, а сядзелі, схаваўшыся, бо часта тыя слупы былі замінаваныя. У вёсцы хутка знайшліся людзі, што здалі бацьку. Тут яму вену прабілі, — Віктар Паўлавіч паказвае на сваю шыю. — З пахавання толькі прыехалі, як ізноў партызаны прыйшлі ды забралі каня. У Слуцку ўжо нашы войскі былі, сястра пайшла да іх, каб дапамаглі каня вярнуць. Толькі яны вырашылі».

Прашу паказаць лісты ад сына: «Атрымліваю іх кожную сераду. Піша, што ў яго ўсё нармальна. А што яшчэ напісаць можна? На спатканні ўжо не езджу, сілаў няма». Лісты ўсе па-беларуску. Беларушчына Статкевіча не напускная, а натуральная. «Настрой у мяне добры, на душы спакойна. Толькі хвалюе твой стан. Беражы сябе, тата», — піша Мікола.

Віктар Паўлавіч цягне на кухню. «Хлопцы, пойдзем чаю пап’ем». Дзядуля хуценька накрывае стол — пернікі, памідоры, вяндліна. «А тут мая фірменная страва — дзесяць гатункаў гародніны тушу. І плюс курыца». Усё гатуе сам. «А хто мне яшчэ гатаваць будзе? Ведаеце, няма нічога страшнейшага за адзіноту».

Яго жыва цікавяць падзеі ва Украіне, дзе жыве старэйшы сын. Чакае, калі на ўсходзе пакончаць з тэрарыстамі. «Вы ж ведаеце, што ў пагадненні паміж Кацярынай і Асманскай Імперыяй, калі Крым пераходзіў да Расіі, было напісана, што ў выпадку абвяшчэння незалежнасці паўвострава ён пераходзіць у турэцкае падпарадкаванне?»

«Калі ў 2005 сына асудзілі на «хімію» ды адправілі ў Баранавічы, ён у мяне быў амаль штодня. Начальнік камендатуры, былы афганец, быў настроены супраць Лукашэнкі, асабліва калі вып’е», — смяецца Віктар Паўлавіч. «Не раіў сыну пісаць прашэнне, бо сам не ведаю, што зрабіў бы ў такой сітуацыі, часта пра гэта думаю».

Раптоўна стары ідзе праваць цiск, адчуў сябе горш. «Крыху павышаны», — кажа ён нам. Становіцца нейк няёмка, што цэлую гадзіну даймалі яго пытаннямі. З кватэры выходзім разам. Віктар Паўлавіч шустрым рухам бярэ капялюш. «Пайду свежыя газеты набуду, падпісваць мне ўжо нявыгадна. Кожны ж дзень можа быць апошнім».

**Зміцер Панкавец,**
**фота Сяргея Гудзіліна**

**Мікола Статкевіч**
Нарадзіўся 12 жніўня 1956 ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна.
Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча СПА (МВІЗРВ) (1978). У 1978—1982 служыў у войску ў Мурманскай вобласці. У 1985-1990 - выкладчык МВІЗРВ. У 1991-м выйшаў з КПСС на знак пратэсту супраць уводу войскаў у Вільню.
У 1991–1995 -- старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў. З 1995 -- Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).
У 2005-м асуджаны да прымусовых працаў за арганізацыю пратэстаў апазіцыі супраць фальшавання вынікаў парламенцкіх выбараў, у 2007-м вызвалены па амністыі. Кандыдат у прэзідэнты ў 2010-м. Затрыманы падчас плошчы, асуджаны да шасці гадоў пазбаўлення свабоды.



# Марына Адамовіч: У мяне ёсць адчуванне шчаслівага лёсу

Марына Адамовіч — жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча. Калісьці яна працавала выкладчыцай у Медыцынскім, а цяпер штотыдзень возіць адваката ў магілёўскую калонію, каб даведацца, у якім стане яе муж.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

« Нельга сябе шкадаваць!

Стройнюткая, з кароткай стрыжкай і ў прыгожай лёгкай сукенцы ў кветку, яна стварае ўражанне абсалютна шчаслівай жанчыны. І адразу пры сустрэчы яна дае зразумець, што пра асабістае размаўляць не любіць, ды і не можа. Каб не сказаць чагосьці, што можа быць выкарыстана супраць яе ці мужа.

### «Мікола — усё той жа родны мне чалавек»

**«Наша Ніва»: Як цяпер адчувае сябе Мікола?**

**Марына Адамовіч:** Ні на што не скардзіцца. Ён займаецца спортам, абліваецца халоднай вадой.

**«НН»: Вы можаце два разы на год бачыцца з ім.**

**МА:** Такая радасць была апошні раз 27 чэрвеня.

**«НН»: І як ён, вочы ззяюць?**

**МА:** Ён папрыгажэў. Ды і сам кажа, што знаходзіцца ў стане ўнутранай раўнавагі.

**«НН»: Якім чынам у яго гэта атрымліваецца? Адзіночка на тое і адзіночка, каб знішчыць дух чалавека.**

**МА:** Па-першае, ён добра ведае, што ён робіць і дзеля чаго. А калі ты ў гармоніі з сабой, то вельмі складана зламаць дух. Яго там не адольваюць адчай і роспач.

**«НН»: На Вашую думку, ён вернецца тым жа чалавекам?**

**МА:** На дадзены момант гэта абсалютна той жа родны і знаёмы мне чалавек.

**«НН»: Шмат каго турма ламае. Выходзіць чалавек — і ён ужо не ён.**

**МА:** Я б не пагадзілася. З людзей, хто сапраўды актыўна займаўся гэтым, — ніхто не сышоў. Хіба што людзі, якія выпадкова патрапілі «пад прэс» альбо і да таго выяўлялі актыўнасць спарадычна.

**«НН»: Пра амністыю не думалі?**

**МА:** Пра міласць тут няма чаго казаць, калі ад чагосьці іх вызваленне залежыць, то толькі ад знешніх ці эканамічных фактараў.

### «Турма раўла «Жыве Беларусь!»

**«НН»: Цяпер Мікола знаходзіцца ў адзіночцы, а як раней да яго ставіліся сукамернікі?**

**МА:** Тое, як да яго ставіліся, паказваюць некаторыя сітуацыі. Вядома, спрабавалі нацкаваць іншых зняволеных, але заўсёды знаходзіліся людзі, якія нечакана паведамлялі пра стан Міколы праз знаёмых. Мяне пацешыла і здзівіла тое, як паводзілі сябе зняволеныя ў шклоўскай калоніі ў дзень нараджэння мужа. Ён пісаў, што не паспееш адвярнуцца, як на ложку нешта ляжыць: то аловак пакладуць, то шакаладку. Адночы чалавек, які не атрымліваў з волі ніякіх перадач, паклаў на ложак Міколу кавалачак хлеба. Калі Міколу перавялі ў Магілёў, ягоныя паплечнікі і сябры зладзілі ў дзень яго нараджэння пад сценамі калоніі феерверк. Турма раўла «Жыве Беларусь!».

**«НН»: Якая ў яго сітуацыя з доступам да інфармацыі?**

**МА:** Мікола амаль 4 гады за кратамі, але абсалютна адэкватна ўяўляе, што адбываецца ў свеце. Мы вельмі доўга змагаліся, каб ён вольна атрымліваў газеты. Бо паколькі Мікола не ішоў ні на якія кантакты і кампрамісы, то яны вырашылі ўздзейнічаць, ствараючы перашкоду атрыманню інфармацыі. Мы нібыта дамагліся таго, каб прэсу прыносілі стала. Але як толькі нешта адбываецца ў грамадстве, пачынаюцца перапынкі са СМІ.

### Два львы

**«НН»: Марына, вельмі цікавіць, а як Вы пазнаёміліся з Міколам?**

**МА:** Пра асабістае я не хачу расказваць, але скажу, што гэта быў 1993 год. Мы сустрэліся ў Доме літаратараў, у кабінеце нашага супольнага сябра на дні яго нараджэння.

**«НН»: Мікола — рамантык?**

**МА:** Ён, найперш, шляхціч па крыві са сваім кодэксам годнасці. Сапраўдны годны чалавек па перакананнях. Я думаю, усе шляхцічы — крыху рамантыкі. Пры ўсім тым, што беларусы, канечне, індывідуалісты, але індывідуалісты летуценныя.

**«НН»: Вось Вы такая вытанчаная і прыгожая. У мяне напрошваецца пытанне: як у змаганні захаваць у сабе жанчыну?**

**МА:** З мінімальнымі высілкамі. Раней я любіла розныя фізічныя трэніроўкі і фітнэсы, але пачынаючы са снежня 2010 я ўвогуле нічым не займалася, вось толькі нядаўна аднавіла заняткі.

**«НН»: Вы з Міколам абое па знаку задыяка львы. Гэты знак з вельмі моцным і складаным характарам. Ці верыце Вы ў гэта? Як увогуле спалучаецеся разам?**

**МА:** Мабыць, гэта ўсё мае пад сабой глебу — знак нейк звязаны з характарам. Невыпадкова, што сярод жонак і матуль палітвязняў столькі львіц. Я ведаю адно: калі табе без чалавека горш, чым побач з чалавекам, то нішто іншае значэння не мае.

**«НН»: Вельмі хочацца асцярожна закрануць Вашае асабістае. Наколькі вядома, Вы працяглы час выкладалі ва ўніверсітэце.**

**МА:** Так, я выкладала эпідэміялогію ў Медыцынскім універсітэце. Цяпер я працую ў праваабарончай арганізацыі. У мяне дзве адукацыі. Адна — медыцынская, другая — юрыдычная.

### «Бацькі мяне зрабілі такой»

**«НН»: Ці лёгка было змяніць прафесію?**

**МА:** Я доўга і пакутліва з гэтым развіталася. Але калі на двары былі 90-я і запахла пераменамі і іншымі магчымасцямі, я вырашыла паспрабаваць сябе ў іншай галіне. Але я доўга не магла ўявіць, як можна кінуць выкладанне. Але рашэнне было прынятае, і развітанне адбылося ў адно імгненне.

**«НН»: Вы моцная жанчына і, па-мойму, бескампрамісная. Што сфармавала ваш характар?**

**МА:** Бацькі. Іх ужо няма ў жывых. Але іх прысутнасць я заўсёды адчуваю праз тое, што яны мне далі і чаму вучылі. Для майго таты рабіць нешта для людзей было гэтак жа натуральна, як дыхаць. Яны былі для мяне прыкладам таго, як трэба радавацца кожнаму дню.

**«НН»: А былі моманты, калі апускаліся рукі?**

**МА:** Вядома. Але нельга сябе шкадаваць. Такія думкі цябе разбураюць. Як толькі ты дазволіш сабе гэта, у цябе адразу апусцяцца рукі, ты захварэеш і сапраўды не зможаш нічога рабіць.

Што тычыцца істотных падзей для Беларусі, я заўсёды буду «стаяць на Плошчы». Што б ні было. Іншага для сябе не бачу.

### «Мару стаць капрызлівай жанчынай»

**«НН»: За той час, пакуль Вы не разам з Міколам, нешта пераасэнсавалі?**

**МА:** У мяне няма адчування, што мы паасобку. Я ўвесь час вяду з Міколам дыялог. Прычым, менавіта дыялог, бо часта мы адначасова пішам адно аднаму пра тое, што думаем. У мяне ёсць адчуванне шчаслівага лёсу і прысутнасці ў ім Міколы.

**«НН»: Я адчуваю, што цяпер Вы не дазваляеце сабе быць слабай ні ў чым. А з Міколам было інакш?**

**МА:** Для жанчыны натуральны стан — быць слабай побач са сваім мужчынам. Я, насамрэч, вельмі спешчаная. Часам вельмі хачу, каб гэта ўсё скончылася і я магла б стаць капрызлівай жанчынай. Гэта вельмі прыемна. Калі Мікола вернецца, я яму рахунак выстаўлю, чаго я была пазбаўлена ў гэты час *(смяецца)*. А калі ён выйдзе, я абдыму яго, прытулюся да яго і выдыхну.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

---

**Марына Адамовіч**

Нарадзілася ў 1961 годзе ў вёсцы Бараўцы Вілейскага раёна. Скончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

12 гадоў працавала ў Медыцынскім інстытуце выкладчыкам кафедры эпідэміялогіі. Сузаснавальнік «Беларускага кнігазбору». Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) з 1996 года.



# «Галасавалі за Статкевіча: зямляк усё ж!»

Рэпартаж з радзімы палітвязня, былога **кандыдата ў прэзідэнты**.


Родная хата Статкевіча.

### Насцярожаная школа

Звесткі пра славутых землякоў у гарадах звычайна збіраюць і захоўваюць у краязнаўчых музеях. У вёсках гэтая місія ўскладзеная на школы.

Сярэдняя школа ў аграгарадку Лядна Слуцкага раёна — дагледжаны двухпавярховік. Да пачатку навучальнага года яшчэ паўмесяца, але да прыходу вучняў ужо ўсё падрыхтавана.

Калісьці, 40 гадоў таму, гэтую школу заканчваў сын мясцовых настаўнікаў Мікола Статкевіч. «Статкевіч-Статкевіч... Нешта знаёмае, — спрабуюць узгадаць настаўніцы. — Гэта каторы з БНФ?»

Статкевіч ніколі не быў у Беларускім Народным Фронце, але матэрыялаў пра яго ў школе на ўсялякі выпадак не захоўваюць. «Гэта вельмі палітызаваная справа, — апраўдваецца дырэктарка. — Калі б ён быў навукоўцам, акадэмікам, гэта было б зусім іншае пытанне». На стэндзе «Славутыя землякі» Статкевіча шукаць пакуль няварта.

«А што, ён кагосьці зноў збірае?» — удакладняе яна.

«Дык Статкевіч жа ў турме сядзіць», — нагадваю дырэктарцы.

«Няўжо ўсё яшчэ?» — здзіўляецца яна.

З інфармацыйнай прасторы дзяржаўных СМІ кандыдат у прэзідэнты знік адразу пасля выбараў. Пра ягоны чацвёрты год за кратамі многія землякі нават не здагадваюцца.

Пра палітыку ў Лядне размаўляць не любяць. Затое захоўваюць нацыянальны дух. Гістарычныя Нясвіжчына і Случчына — адзін з трох аазісаў беларушчыны на карце краіны. Падчас папярэдняга перапісу насельніцтва да 50% гараджан і да 80—90% вяскоўцаў у рэгіёне казалі, што размаўляюць дома па-беларуску.





Бацькі палітвязня.

Дый ляднаўская школа ад дня свайго заснавання цалкам беларускамоўная.

### Брат-дырэктар

Дырэктарка раіць паразмаўляць з былой настаўніцай Соф'яй Сцяпурай, якая сябравала з бацькамі Міколы.

Соф'я Сцяпура была класнай кіраўніцай у Аляксандра Статкевіча, старэйшага брата палітыка. Цяпер ён жыве ў Львове. Ажаніўся з дачкой дырэктара тамтэйшай лакафарбавай фабрыкі, а з цягам часу і сам стаў дырэктарам.

«Вельмі спакойныя хлопцы былі, абодва вучыліся добра. Вялікіх кампаній не ведалі, самі па сабе жылі», — расказвае Соф'я Аляксандраўна пра братоў.

Хату ў Лядне, у якой жылі Статкевічы, бацька Віктар Паўлавіч ставіў сваімі рукамі.

«Ніхто ў яго палец не паклаў на гэтую хату! Сам усё рабіў», — узгадвае Соф'я Аляксандраўна.

Пасля пераезду сям'і ў Баранавічы хату давялося прадаць. З цягам часу яна перайшла да наступнага гаспадара.

Лядна — не малая вёска. З дзясятак вуліц на ёй нібы нанізаныя на шашу, якая вядзе з Івацэвічаў праз Слуцк і Бабруйск аж да мяжы з Расіяй. Знайсці сярод сотняў дамоў былую хату Стакевічаў няпроста.

Дапамагае трактарыст: «Шукаеце, дзе Мікола жыў, кандыдат? Вось тут, праз дарогу».

На выбарах трактарыст галасаваў за Статкевіча. «Канечне, за яго. Ён жа зямляк!» Пра такі самы выбар кажуць і многія іншыя вяскоўцы. Хоць хапае і тых, хто падтрымліваў Лукашэнку.

### «Коля — мужык»

У двары былой хаты Статкевічаў пад сонцам спіць сабака. На госця ён не рэагуе ніяк. Нарэшце ў дзвярах з'яўляецца падцягнуты мужчына. «Адпачываў пасля начной змены», — тлумачыць ён, пазяхаючы.

Пра славутага былога жыхара дома новы гаспадар, Вячаслаў Гардзіевіч, добра ведае, хоць і не быў знаёмы з ім асабіста. «Я нашмат старэйшы», — прызнаецца новы гаспадар. З выгляду і не скажаш, што яму пераваліла за 70.

«Перад выбарамі прыязджалі з абласнога тэлебачання, здымалі перадачу пра Статкевіча. Я нешта нават казаў у камеру. Назвалі час, калі будуць паказваць. Але ў апошні момант праграму ў эфір не пусцілі», — узгадвае ён. Па тэлевізары ў той час круцілі толькі «Жалезам па шкле».

Вячаслаў Казіміравіч земляка на прэзідэнцкіх выбарах не падтрымліваў, бо на ўчастак не хадзіў. Ён кажа, што выпісвае толькі «Советскую Белоруссию», і шчыра прызнаецца, што ўсю інфармацыю ўспрымае праз люстэрка дзяржаўнай прапаганды.

«А навошта яны шкло білі і дзверы ламалі?» — паўтарае ён.

«Што, сам Статкевіч і біў, што яму шэсць гадоў далі?» — перапытваў у яго.

«Гэта замнога», — згаджаецца гаспадар.

Але паўгадзінная размова пра будучыню Беларусі і перспектывы яе развіцця так і не прыходзіць да агульнага назоўніка.

Як паставіліся ў Лядне да жорсткага прысуду Статкевічу? «Гаварылі, што, каб выбралі Міколу, па-іншаму было б. І шкадавалі яго, і спачувалі... Але дапамагчы ж яму ніхто не можа», — разводзіць рукамі Соф'я Сцяпура. «Коля — сапраўдны мужык. Калі сціснуў зубы, то ўсё вытрымае», — перакананы сусед.

**Ягор Марціновіч, Лядна—Мінск**

### Шляхціч Статкевіч

Герб праваслаўнага роду Статкевічаў «Касцеша» вядомы з XV стагоддзя. Паводле легенды, мужнасць рыцара Касцешы ў 1072 годзе адзначыў польскі кароль Баляслаў I Храбры. Воін змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе і расшчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён зняў баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: «Гэта і ёсць мая здабыча!» На памяць пра такую адвагу кароль дазволіў рыцару змясціць на свой герб перакрыжаваныя стралу і меч.

Статкевічы былі знаным родам у Вялікім Княстве Літоўскім. На іх грошы пабудаваныя праваслаўныя Свята-Петрапаўлаўская царква ў Мінску, Куцеінская лаўра ў Оршы.



# Алена Анісім гатовая ісці на прэзідэнцкія выбары

Першы **намеснік старшыні ТБМ** не баіцца сысці ў палітыку.

Апазіцыйныя палітычныя сілы працягваюць пошук магчымых кандыдатаў на прэзідэнцкія выбары 2015 года. Сярод патэнцыйных прэтэндэнтаў з'явілася прозвішча 51-гадовага філолага Алены Анісім. Яе кандыдатуру гатовая падтрымаць Рада беларускай інтэлігенцыі.

«Самай галоўнай задачай з'яўляецца кансалідацыя ўсіх патрыятычных сілаў, — кажа спн.Алена. — Удзел у прэзідэнцкіх выбарах, хутчэй, пытанне другаснае. Першаснае — пытанне незалежнасці. Што тычыцца вылучэння, то гэта пытанне не столькі да мяне, колькі да грамадства. Калі нацыянальныя сілы вырашаць вылучыць мяне як кандыдата ў прэзідэнты, то я гатовая».

Ці не страшна сыходзіць з грамадскай дзейнасці ў палітыку? «Мы ўсе ў палітыцы ад таго моманту, як нам спаўняецца 18 гадоў і мы можам удзельнічаць у выбарах. Я ў грамадскай дзейнасці досыць даўно, часам не з сама, а людзі падштурхоўваюць мяне ўзяць адказнасць за большы кавалак працы. У палітыку ісці мне не страшна, бо я ўжо досыць пажыла, тое-сёе маю за плячыма, як у асабістым, гэтак і ў прафесійным, ты разумееш, ці табе спыніцца на пэўным узросце, ці расці далей».

Спадарыня Анісім кажа, што цяпер вядзецца праца па падрыхтоўцы да склікання Кангрэсу за незалежнасць Беларусі, які мусіць адбыцца да канца года.

Разам з тым яна падкрэслівае, што ТБМ — гэта не палітычная арганізацыя і ніякім чынам у прэзідэнцкай кампаніі арганізацыя ўдзельнічаць не будзе.

Алена Анісім нарадзілася 28 верасня 1962 года ў вёсцы Савані на Стаўпеччыне Мінскай вобласці. Скончыла філфак БДУ. Яшчэ ў глухі савецкі час яна была актыўнай удзельніцай падпольнай незалежніцкай суполкі «Майстроўня». З 1991 года працуе ў Інстытуце мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук (з 2008 года называецца Інстытут мовы і літаратуры). Намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, адна з вядоўцаў штотыднёвай праграмы «Беларуская мова» на тэлеканале АНТ.

**Зміцер Панкавец**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Новы старшыня Гродзенскага гарвыканкама Мечыслаў Гой — карыстальнік сацыяльных сетак

Нарэшце атрымаў кіраўніка горада Гродна. Справа ў тым, што ў пачатку мінулага года старшыню гарвыканкама Андрэя Худыка забралі ў Мінск намеснікам у Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

Новым «мэрам» Гродна стаў Мечыслаў Браніслававіч Гой, які да гэтага амаль дзесяць гадоў кіраваў Смаргонскім райвыканкамам.

Мечыславу Гою 51 год. Ён родам з вёскі Шловенцы Воранаўскага раёна (на мяжы з Літвой). Для беларускага чыноўніка ён надзвычай добра прадстаўлены ў сацыяльных сетках. Напрыклад, мае сваю старонку Укантакце. Праўда, чамусьці пасля публікацыі на сайце nn.by выдаліў усіх сяброў, нават сваякоў, а таксама пачысціў сцяну і схаваў асабістыя звесткі.

Ён скончыў БДАТУ, аграмеханічны факультэт (1989), а таксама Акадэмію кіравання пры прэзідэнце (2004). У анкеце Укантакце пазначана канфесія —«каталіцызм». Жанаты, мае трох сыноў.

Смаргонскі раён — адзін з перадавых у Гродзенскай вобласці. На яго тэрыторыі знаходзяцца моцныя СПК «Солы» і «Жодзішкі». А таксама 18 прамысловых прадпрыемстваў. У 2009 у Смаргоні праходзіў Дзень беларускай пісьменнасці.

**ЗП**



## У Расіі канчаткова забаранілі Марш за федэралізацыю Сібіры

Крэмль **змагаецца з сепаратызмам** у Расіі.

Генпракуратура забараніла Марш за федэралізацыю Сібіры, які меў адбыцца 17 жніўня ў Новасібірску. Па патрабаванні пракуратуры былі заблакаваныя старонкі, прысвечаныя маршу, Укантакце і на Фэйсбуку, а наглядчыкі за інтэрнэтвыданнямі папярэдзілі 14 сайтаў, якія паведамілі пра яго, пра адказнасць за «ажыццяўленне экстрэмісцкай дзейнасці», пасля чаго гэтыя публікацыі былі выдаленыя.




Арганізатараў назвалі здраднікамі радзімы, платныя тролі атрымалі падрады на барацьбу з прыхільнікамі Маршу. «Дарэчы, з лексікона зомбаканалаў зніклі дэфініцыі аб «прыхільніках федэралізацыі ва Украіне. Цяпер яны апалчэнцы», — адзначае ў сваім Фэйсбуку былы віцэ-прэм'ер Расіі Барыс Нямцоў.

Адзін з арганізатараў маршу, Аляксей Баранаў, апублікаваў адказ на пададзенае ў мэрыю апавяшчэнне, падпісаны намеснікам мэра Генадзем Захаравым: «Для забеспячэння непахіснасці канстытуцыйнага ладу, тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэнітэту РФ у правядзенні маршу адмовіць».

Арганізатары маршу растлумачылі, што яны гэтай акцыяй мелі намер «патроліць уладу», якая падтрымлівае сепаратыстаў на паўднёвым усходзе Украіны. Але, акрамя іроніі над прапагандысцкай рыторыкай, меркаваўся і цалкам сур'ёзны просты сэнс: нагадаць уладзе і грамадзянам, што, згодна з Канстытуцыяй, Расія — федэратыўная дзяржава, у якой рэгіёны маюць права на палітычную самастойнасць, а таксама «ўказаць на праблемы ў існай практыцы размеркавання бюджэтных сродкаў паміж рэгіёнамі».

**Сяргей Гезгала**

## Стральцоў-Карвацкі: Мы нашчадкі палітычнага народу ВКЛ

У Мінску прайшоў установчы з'езд **«Краёвага згуртавання ліцвінаў»**.

На з'ездзе прысутнічала 50 асобаў. Старшынёй арганізацыі абраны Аляксандр Стральцоў-Карвацкі, яго намеснікамі — Аляксандр Капуцкі і Андрэй Аляхновіч. Апроч іх трох, у Раду арганізацыі ўвайшлі Дзмітрый Вайцяховіч і Сяргей Брыцікаў.

5 жніўня рэгістрацыйныя дакументы арганізацыі былі пададзеныя ў Міністэрства юстыцыі Беларусі. Праўда, папярэднія спробы рэгістрацыі былі няўдалымі.

«Арганізацыя ствараецца для легалізацыі дзейнасці так званага вялікалітоўскага руху, — кажа Аляксандр Стральцоў-Карвацкі. — Для нас важна захаваць сваю ідэнтычнасць, лепшае з беларускай ідэнтычнасці. Ліцвіны сёння — гэта нашчадкі палітычнага народу Вялікага Княства Літоўскага. Людзі, якія карыстаюцца беларускай мовай».

Кіраўнік «Згуртавання» кажа, што на сёння ў арганізацыі няма апазіцыі «беларус — ліцвін». «Ёсць людзі, якія ўважаюць сябе і беларусамі, і ліцвінамі адначасова — гэта не супярэчыць. Ёсць тыя, што лічаць сябе толькі ліцвінамі». Арганізацыя не ставіць перад сабой палітычных мэтаў, толькі асветніцкія. Стральцоў-Карвацкі з'яўляецца прыхільнікам манархічнай формы кіравання. «Але гэта мае прыватныя погляды, якія не маюць ніякага дачынення да працы «Краёвага згуртавання ліцвінаў».

«Паводле апошняга перапісу 66 чалавек у Беларусі назвалі сябе ліцвінамі, нам падаецца гэтая лічба заніжанай. Вялікаліцвінская ідэя можа стаць папулярнай сярод сярэдняга класа. Бо мы не выкрэсліваем здабыткі нашай арыстакратыі, шляхты папярэдніх пакаленняў».

**ЗП**

# Што беларусы вязуць з Польшчы?

**У суседняй краіне амаль усё танней.**

Чытач «Нашай Нівы» Павел Радына нядаўна адправіўся ў Беласток, каб на сабе праверыць, наколькі выгадна ездзіць на закупы да суседзяў.

Галоўнай мэтай паездкі была дзіцячая каляска, мотакосы (трымеры), падгузкі, кава. Гэта быў абавязковы мінімум. Хаця разлічвалі машыну «запакаваць» цалкам, каб паездка акупілася напэўна. Ехала нас чацвёра.

Рэчавы рынак пачынае працу а 5-й раніцы. Але прыязджаць у Беласток можна і раней. Бо ўначы працуе рынак «Фасты», дзе прадаюць садавіну, гародніну, каву, чаі, парашкі і падобныя тавары. Тут выгадным аказалася набываць шакалад, сродак для паласкання, дзіцячыя сурвэткі (5 злотых супраць беларускіх 30950 рублёў), энергетычныя напоі (1,6 злотага). Падгузкі — па мінскіх цэнах. Кава танная, але даражэйшая, чым у іншых месцах. Калі першы раз адпраўляецеся на закупы, варта пракансультавацца ў людзей дасведчаных: дзе і па чым браць. На «Фастах» цэны на адзін і той жа тавар могуць адрознівацца на некалькі злотых. Там, дзе даражэй, выпісваюць ВАТы — вяртанне падатку на дадатную вартасць. Прыехаўшы наступны раз, вы можаце забраць каля 17% ад кошту сваіх пакупак. Але для пачатку трэба купіць нешта на 200 злотых у адзін чэк. Калі тавар аднатыпны па ўсім рынку, зрабіць гэта аднаму не так і лёгка, каб не парушыць дазволеныя нормы ўвозу ў Беларусь. А вось ужо кампаніяй — проста.

| Найменне | Цана, злотыя/рублі | Цана ў Беларусі | Эканомія |
|---|---|---|---|
| Кава «Lavazza Espresso» (250 гр) | 13,2/43850 | 54500 | 10650 |
| Кава «Tchibo Family» (500 гр) | 11,9/39500 | 57000 | 17500 |
| Ягады Годжы (1 кг) | 42,9/142400 | 600000 | 457600 |
| Рондаль керамічны | 50/165950 | 230000 | 64050 |
| Патэльня мармуровая з накрыўкай | 55/182550 | 270000 | 87450 |
| Сродак для мыцця посуду «Fairy» (1 л) | 4,99/16600 | 27000 | 10400 |
| Сродак для паласкання «Sofin» (2 л, канцэнтрат) | 8,5/28250 | 46000 | 17750 |
| Парашок «Persil» (5 кг) | 32,5/107900 | 144480 за 4,5 кг | 52600 |
| Падгузкі «Бэбі драй 4» (89 штук) | 52/172600 | 289900 за 99 шт. | 88000 |
| Бодзі дзіцячыя з даўгім рукавом | 6,99/23200 | 81900 | 58700 |
| Бодзі дзіцячыя з кароткім рукавом | 5,99/19900 | 56000 | 36100 |
| Джынсы мужчынскія | 75/248950 | 350000 | 101050 |
| Джынсы жаночыя (класік) | 60/199150 | 300000 | 100850 |
| Жаночыя басаножкі | 20/66400 | 150000 | 83600 |
| Сушылка для бялізны | 15/49800 | 182000 | 132200 |
| Каляска Marsel Classik (3 у 1) | 850/2821150 | 3612000 | 790850 |
| Бескантактны тэрмометр | 79/262150 | 390000 | 127850 |
| Матрац надзіманы | 22,98/76300 | 316000 | 239700 |
| Трымер Harder BC415D/S (0,9 кВт) | 246/816500 | 1133000 | 316500 |



**У любы дзень каля «Ашана» сустрэнеце дзясяткі беларускіх аўто.**

WIKIMEDIA.ORG

Побач знаходзіцца «Дэлі». Гэта крама падобная па таварах на «Фасты». Толькі выбар меншы, але і цэны ніжэйшыя. Тут аказалася танней набываць падгузкі, каву, парашок.

Тутака ж і гіпермаркет Auchan. Тавараў шмат, як і ў мінскіх гіпермаркетах. Але мы ехалі з мэтай ашчадзіць. Таму выбіралі толькі тое, у чым не сумняваліся, што яно таннейшае. Дзіцячае адзенне, жаночы абутак (у высокай якасці не пэўныя, але прынамсі невысокія кошты). Асобна адзначу ягады Годжы. Гэта сродак для пахудання. У Мінску ягады прапануюць па надта высокіх цэнах. Тут проста ў разы танней.

А вось на мяса зусім не глядзелі, каб не расстройвацца невысокімі цэнамі, бо правозіць у Беларусь яго ўсё адно нельга. Тыя, хто ездзіць на закупы пастаянна, расказвалі гісторыі пра мясныя прадукты. Калі знойдуць, то развернуць у канец чаргі. А калі машын стаіць пад сотню, то можна яшчэ паўдня прастаяць у чаканні. Бо выкідваць у сметніцу на мяжы мяса не дазваляюць, а з'есці немагчыма, калі там нават паўкілаграма... На прадукты таксама афармляем ВАТы.

Каля «Ашана» знаходзіцца Leroy Merlin — вялізная крама з нехарчовымі таварамі. Тут глядзелі выключна трымеры. Спыніліся на танных кітайскіх бензінавых. Купілі два — розная магутнасці (пры нас такія ж купілі яшчэ двое беларусаў). Тут жа афармляем ВАТы.

Далей кіруемся на рэчавы рынак. Тут шукалі дзіцячую каляску. Выпісаўшы папярэдне беларускія цэны, я адразу ледзь не купіў першую ж, якую ўбачыў. Нават без дакладнага пераліку цаны ў рублі, было зразумела: танней як мінімум на паўмільёна. Але, павыбіраўшы, знайшоў больш танны варыянт — трансформер 3 у 1. Такой калясцы павінна хапіць на ўсё дзяцінства. Праўда, у канкрэтнай крамцы не выпісвалі ВАТы (на рынку іх афармляюць не ўсе). У супрацьлеглым выпадку цана на яе была б значна вышэйшай. Але ўсё адно танней, чым у Беларусі.

З запланаванага купілі ўсё. За адным разам прыдбалі і шмат іншых рэчаў: джынсы, майкі, посуд, сродкі гігіены...

Што ж мы ашчадзілі ў рэальнасці? Сэканомілі мы агулам каля 5 мільёнаў рублёў. І яшчэ 1,1 мільёна вернуцца ў выглядзе заплачанага падатку. Дарога абышлася ў 600 тысяч, страхоўка на машыну — 30 еўра. Трэба дадаць сюды візу 60 еўра. Агулам 77 еўра на чалавека.

Трэба ведаць, што ВАТы не заўсёды вяртаюцца цалкам. Калі афармляць праз сістэму «Глобал Блю», аддадуць каля 13% ад кошту тавару. Затое забраць грошы можна адразу ў Беларусі.

Па дарозе назад, калі стаялі ў чарзе на мяжы, абышоў усе машыны, каб пагладзець, што ж вязуць іншыя. Тэлевізары, ровары, пральныя машыны, парашкі, батарэі ў кватэру... Былі нават унітаз і ўпакоўка туалетнай паперы.

Ехаць ці не ў Беласток на закупы, кожны вырашае сам. Адназначна, што цэны там ніжэйшыя. Праўда, трэба ведаць, што на мяжы правядзеце па некалькі гадзін у кожны бок.

**Павел Радына**

**Алкаголь**

Пасля праходу мытні можна заехаць у краму Duty Free. Там алкаголь, які ў беларускіх крамах каштуе ўдвая даражэй. Напрыклад, літр брэндзі «Метакса» і літр тэкілы «Сіера» прадаваліся па 12 еўра (каля 165 тысяч). Віны і іншыя моцныя напоі — у асартыменце.

# Случчак змяніў імя ў пашпарце з «Сяргея» на «Сержука»

Да свайго 25-годдзя случчак Сяргей вырашыў зрабіць сабе падарунак — змяніць імя на беларускае. Супрацоўнікі загса спачатку вырашылі, што ён жартуе, а пасля адправілі хлопца ў Акадэмію навук.

«Патрыятычныя памкненні ў мяне даўно прысутнічалі. Я люблю беларускую культуру, ганаруся тым, што беларус, і думка пра тое, каб змяніць імя, у мяне з'явілася яшчэ гады два таму. А тут якраз тэрмін дзеяння пашпарта сканчваўся, і я вырашыў рэалізаваць сваю ідэю, — распавёў Сяржук. — Мне здавалася несправядлівасцю, што ў нас Змітра запісваюць Дзмітрыем — карацей, пішуць у пашпарты рускія варыянты імёнаў. Супрацоўніцы загса спачатку вырашылі, што я жартую. Спыталі: а з чаго вы ўзялі, што ёсць такое імя? Калі яны зразумелі, што ў мяне сур'ёзны намер, параілі звярнуцца ў Акадэмію навук за даведкай, што такое імя існуе».

Сяргей быў упэўнены: ён першы, хто мяняе імя на беларускае.

«Як жа я здзівіўся, калі даведаліся, што мне трэба. Супрацоўніца Акадэміі навук адчыніла на камп'ютары гатовы бланк і пачала ўводзіць мае дадзеныя. Спытаў, ці не адзін я такі. Ды не, кажа, вось нядаўна звяртаўся яшчэ адзін Сяргей, таксама Сержуком стаць хацеў», — кажа ён.

Пасля дакументы адправілі ў Міністэрства юстыцыі, і праз пэўны час Сяргей атрымаў адказ, што яго зварот разгледзелі і яму дазваляюць змяніць імя.

«Шчыра кажучы, я чакаў, што будуць праблемы, але атрымалася надзіва проста. Забаўныя пытанні кшталту «А ты падумаў пра дзяцей?» мне задавалі знаёмыя і супрацоўнікі загса. На маю думку, гэта сведчыць пра тое, што беларусы прывыклі бачыць свет па-руску, у іх не працуе беларускае мысленне. Людзі не разумеюць, як можна жыць з імем Сяржук. Супрацоўнікам загса я сказаў, што сваіх дзяцей назаву не Ванем, Пецем ці Сашам. Можа, у мяне сын будзе Францішак? — разважае хлопец. — Я нікога не прымушаю зваць мяне Сержуком, бо гэта не разумна. Людзі, якія мяне ведаюць шмат гадоў, прывыклі звяртацца да мяне як да Сяргея. Але, як ні дзіўна, многія знаёмыя падхапілі маё новае імя і вельмі пазітыўна яго ўспрымаюць. Нават тыя, хто не размаўляе па-беларуску, нічога супраць не маюць, не кпяць з гэтага. І мама паставілася з паразуменнем да майго ўчынку. Дарэчы, адзін знаёмы хоча скарыстацца маім досведам і таксама памяняць імя на беларускае».

У штодзённым жыцці Сяржук карыстаецца дзвюма мовамі — рускай і беларускай. Нядаўна хлопец абараніў дыплом па-беларуску:

«Сёлета я скончыў Міжнародны гуманітарны эканамічны інстытут па спецыяльнасці «паліталогія». Сябра камісіі з Міністэрства адукацыі вельмі ўзрадаваўся, прачытаўшы тэму майго дыпломнага праекта «Нацыяналізм у XIX стагоддзі». Маўляў, я хоць паразмаўляю па-беларуску. Атрымаў 10».

Сяржук лічыць сябе нацыяналістам. На яго думку, улады павінны садзейнічаць умацаванню нацыянальнай ідэі. «Аб'яднаць беларусаў могуць агульныя каштоўнасці — мова, культура. Я перакананы: гэта адзіны гарант бяспекі нацыі. Раскруткай нацыянальнай ідэі павінна займацца дзяржава, бо нават у самых ініцыятыўных беларусаў няма столькі рэсурсаў, каб паўплываць на сітуацыю ў грамадстве», — кажа Сяржук.




**Вольга Слуцкая, «Салідарнасць»**

# Марсаход Curiosity блізкі да доказу жыцця на Марсе

Апарат ужо **два гады на Чырвонай планеце**, але яшчэ не дайшоў да канчатковай мэты.



Роўна два гады таму, 6 жніўня 2012 года, увесь свет з захапленнем сачыў, як рэактыўная пасадачная сістэма SkyCrane апускала марсаход Curiosity на паверхню Марса пры дапамозе тросаў. Пасадка Curiosity на паверхню ў раёне 154-кіламетровага кратара Гейла прайшла паспяхова, пасля чаго марсаход узяўся за даследаванні гістарычнага мінулага чырвонай планеты.

На працягу першых месяцаў знаходжання на Марсе марсаход зрабіў масу важных навуковых адкрыццяў, якія пацвердзілі, абверглі і дапоўнілі існуючыя тэорыі аб геалогіі і гісторыі гэтай планеты. А цяпер свет з нецярпеннем чакае моманту кульмінацыі навуковай місіі марсахода Curiosity, які дзень за днём падыходзіць усё бліжэй і бліжэй да сваёй галоўнай навуковай мэты — 5,5-кіламетровай гары Шарп.

Галоўнай мэтай місіі марсахода Curiosity, на якую было затрачана 2,5 мільярда даляраў, з'яўляецца вызначэнне факта існавання на паверхні Марса мікрабіялагічных і іншых формаў жыцця ў мінулым гэтай планеты. У верасні 2012 года марсаход, перабіраючыся па рэчышчы ракі, якая цякла па паверхні каля 1000 гадоў таму, выявіць некаторыя першыя «намёкі», якія паказвалі на магчымасць існавання жыцця на Марсе. І праз некалькі месяцаў гэтыя намёкі набылі цвёрдае пацвярджэнне ў выніку аналізу ўзораў, атрыманых пры дапамозе свідравой устаноўкі марсахода ў месцы пад назвай заліў Елаўнайф (Yellowknife Bay).

Даследаванні паказалі, што мільярды гадоў таму ў гэтым месцы Чырвонай планеты існавалі ўмовы, спрыяльныя для зараджэння жыцця, уключаючы наяўнасць мяккай прэснай вады.

Варта разумець, што марсаход Curiosity не валодае абсталяваннем, пры дапамозе якога ён зможа падняцца на вяршыню гары Шарп. Таму кіраўнікі місіі плануюць накіраваць марсаход да сульфатаў, якія знаходзяцца на вышыні 400—500 метраў ад падножжа горы.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



### Замест «невядомых чырвонаармейцаў» — сярэднявечныя беларусы

У Ваўкавыску скончыліся раскопкі раннехрысціянскага могільніка XIII—XV стст. Раскопкі на поўдні Гарадзеншчыны выявілі пахаванні часоў Вялікага Княства: шкілеты ў суправаджэнні няхітрага скарбу: керамікі, скроневых кольцаў, фібулаў ды крэсіваў. Сёлетнія раскопкі ажыццяўляюцца сумеснымі высілкамі Гарадзенскага ўніверсітэта ды Гісторыка-археалагічнага музея з горада над Нёманам. Цікава, што перад гэтым на могільніку папрацаваў пошукавы батальён, які 56 знойдзеных сярэднявечных беларусаў вызначыў як невядомых жаўнераў Другой сусветнай. Толькі археалагічнае даследаванне пад кіраўніцтвам Генадзя Семенчука гэтую хібу выправіла.

**Алесь Кіркевіч, Гродна**

# Поспех беларускага футбола: тры каманды за крок ад еўракубкавай восені

**Барысаўскі БАТЭ** ужо забяспечыў сабе выхад у групавы турнір аднаго з еўракубкаў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сяргей Крывец вывеў БАТЭ ў групу.

У звышдраматычнай гульні беларускага чэмпіёна з венгерскім «Дэбрэцэнам» усё вырашылася на чацвёртай дададзенай арбітрам хвіліне. Эдгар Аляхновіч, які выйшаў у другім тайме на замену, асцярожна навесіў у штрафную, і Сяргей Крывец на хвілінку апярэдзіў брамніка супернікаў. Увесь стадыён, а матч прайшоў з аншлагам, выбухнуў радасцю і апладысментамі. Гэта было крута і па эмоцыях не саступала легендарнай перамозе БАТЭ над «Баварыяй». Барысаўцы перамаглі «Дэбрэцэн» з лікам 3:1, а па суме двух матчаў — 3:2 (перамога з лікам 2:1 беларусаў бы не задаволіла).

Каб прабіцца ў групу Лігі чэмпіёнаў, БАТЭ трэба будзе перамагчы славацкі «Слован». Лёсаванне было вельмі літасцівым да нашых. У выпадку паразы БАТЭ будзе гуляць восенню ў Лізе Еўропы.

Мінскае «Дынама» двойчы суха перамагло румынскі «Клуж». Спачатку 1:0 дома, а пасля — 2:0 у гасцях. Трэба дзеля справядлівасці сказаць, што суддзя быў да мінчукоў звышлаяльны. А яшчэ цудоўную гульню паказаў брамнік Гутар. У наступным раўндзе Лігі Еўропы дынамаўцы падужаюцца з партугальскім «Насьёналам» з вострава Мадэйра. Супернік не выглядае непераадольным.

Салігорскі «Шахцёр» абсалютна нечакана для ўсіх перамог бельгійскі «Зюлтэ-Варэгем». Прычым дома бельгійцы былі бітыя вельмі жорстка — 5:2. За выхад у групу салігорцы згуляюць са славутым галандскім ПСВ з Эйндховена. Здаецца, перавага за нідэрландцамі, але «гарнякі» даказалі, што могуць падносіць сенсацыі.

**Зміцер Панкавец**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Маўчанне Быкава, альбо Жывым не баліць

Адам Глобус выказаў у Фэйсбуку сваё стаўленне да творчасці Васіля Быкава. «Ад прозы Васіля Быкава, — піша Адам Глобус, — тхне вайсковым шынялём... Шынялі, савецкая салдатня, чалавеказабойчы свет вайны — не мае зусім... Мой свет пахне дарагой парфумай з крамы «Шанэль». Творчасць Како Шанэль з ідэальнымі флакончыкамі парфумы мне бліжэй за творчасць Быкава з цяжкімі і смярдзючымі шынялямі»...

Я не збіраюся бараніць пісьменніка Васіля Быкава ад пісьменніка Адама Глобуса, ад ягонага непадсуднага, неаспрэчнага права мець і публічна заяўляць сваю эстэтычную пазіцыю.

Мяне больш хвалююць пахі. Дакладней, іх параўнанне.

Бо калі па прыкладзе Глобуса прынюхацца, пах шыняля быў для «савецкай салдатні» куды больш прыдатным за пах сусветна вядомай парфумы. Ну, не толькі прыдатным. Ратавальным, скажу так.

Ратавальным ад забыцця.То бок ад новай вайны.

Дастаткова «прынюхацца» да адышоўшага ў амаль ужо недасягальную далячынь паху бацькоўскага шыняля, каб ізноў адчуць дзіцячую веру ў бясконцасць жыцця.

Жыццё, у якім кожнаму паху прадвызначана сваё месца. У тым ліку паху «Шанэлі» m-me Како...

Парадокс, аднак, у тым, што жыццё, пакуль яно доўжыцца, перамешвае ўсе пахі ў адзіны свой непаўторны пах.

І ў гэтым сэнсе «Шанэль» m-me Како гэтаксама тхне быкаўскім шынялём.

Тут не трэба выдумляць аніякіх «сюжэтных канструкцый», якія, па Глобусу, нібыта «навыдумляныя Быкавым пра другую сусветную бойню і савецкага чалавека ў яе крывавай куламесе».

Мне пашчасціла аднойчы назіраць, як Быкаў гэтыя канструкцыі «выдумляў».

...1966 год, залаты верасень, Гродна...

Я ўпершыню ў гэтым горадзе. Стаю ў роспачы ля Каложы, перад трухлявымі дзвярыма, зачыненымі на вялізны, як на свірне, іржавы замок. Я не ведаю яшчэ пра яе амаль чалавечы лёс. Хаця ўжо відавочна, як яна хіліцца са смяротнай вышыні абрыва да Нёмана, нібыта рыхтуецца да апошняга кроку...

«Хочаце ўвайсці? Адчыніць?»

## Жыццё перамешвае ўсе пахі ў адзіны свой непаўторны пах



Азіраюся. Маленькая жанчына ў стракатай хустцы і рудой шарсцяной кофце дастае недзе з-пад старой спадніцы звязак ключоў. «Вось... зараз... зараз...» Я заўважаю, што яна амаль нічога не бачыць — нейкая хвароба на вочы зрабіла яе погляд прыжмурананерухомым. Мусіць, ён стаўся нерухомым на момант нейкай шчаслівай усмешлівай дабрыні... «Вось... вось... — жмурыцца яна на царкву, нібыта на сонейка, і асцярожна, ласкава так, расчыняе дзверы, — прымай госця...»

І я разумею, што Каложа для яе — параненае дзіця.

«Слухайце... слухайце», — шэпча вартаўніца Каложы.

«...айце... айце...» — адгукваюцца няроўныя, пад белай вапнай, сцены з умураванымі галаснікамі...

І я разумею, што чую рэха ўсіх яе мінулых стагоддзяў.

Але думаю пра 20-е: няўжо так і застанецца замкнёным на ржавы замок ягонае трагічнае рэха? Не-не, не павінна.

Яно ўжо гучыць рэхам салжаніцынскага «одного дня Ивана Денисовича»...

Яно ўжо гучыць рэхам быкаўскіх мёртвых, каторым не баліць...

Я прагну пачуць Быкава. Ён тут, побач, у Гродне. Мне здаецца, што ён адкрые мне такую праўду, пра якую яшчэ ніхто не чуў. Я нават ведаю, пра што запытаю ў яго найперш: ці праўду мне кажа бацька, што не застрэліў у атацы немца, калі той лямантаваў, ускідваючы рукі, — «Зэкс кіндэр! Зэкс кіндэр!»? Вядома, я верыў бацьку, не сумняваўся, што так і было. Але ж так карцела ў размове з Быкавым быць бліжэй да «праўды вайны»!

...Ён маўчаў. За ўвесь час — ані слоўца.

За колькі хвілін да таго, як усе, чалавек мо шэсць ці сем, сыйшлі ў сутарэнне, дзе месцілася фоталабараторыя «Гродненской правды», ён звычайна паціснуў руку, назваўся і прыязна ўсміхнуўся ў адказ на маё імя. І ўсё. Адно што ўразіла — усмешка. Усмешкі на ягоным твары я не чакаў...

Адзначалі дзень нараджэння Віктара Косціна, фотакара, былога франтавіка, танкіста, тройчы, а мо і болей, параненага. Мне нават падаецца зараз, што без нагі. Але Іосіф Калюта, на той час гродзенскі сабкар «Знамёнкі», дзе я ўжо працаваў, сцвярджае, што памыляюся. Магчыма. Спрацоўвае, мусіць, тое, што пасля вайны шмат якія рэдакцыйныя фатографы былі без нагі, як былы падрыўнік Федзя Бачыла з «Чырвонкі», ці без ног, як легенда «Советской Белоруссии» Леў Папковіч... Паселі дзе хто, пабралі хто шклянкі, хто конаўкі, Быкаў, дакладна памятаю, бляшаную... І паплылі па ўспамінах. Акрамя нас з Калютам — спрэс «савецкая салдатня». Толькі Быкаў маўчаў. Адсунуў конаўку і ўсё запісваў, запісваў нешта ў нататнік, у асноўным, за Косціным...

Шкада, не памятаю, пра што.

...Тут вось якое пытанне ў сувязі з «какотлівай» эстэтыкай Глобуса: што мацней тхне новай «крывавай куламесай» — «Шанэль» m-me Како ці шынель Васіля Быкава?

Падаецца, што «Шанэль». Пах, безумоўна, прыемны. Але наўрад ці прыдатны для бясконцага жыцця. Бо якое ж яно бясконцае без памяці? То бок без паху быкаўскага шыняля.

То бок без болю.

# У мінскай царкве прадавалі біяграфію тэрарыста Стралкова

Настаяцель Петрапаўлаўскага сабора **Георгій Латушка** ўхваліў продаж кнігі.

У кнігарні пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску. Сярод царкоўнай літаратуры выдзяляюцца дзве кнігі: «Абарона Данбаса. Ігар Стралкоў — жах бандэраўскай хунты» Міхаіла Палікарпава і «Украіна. Хаос і рэвалюцыя — зброя даляра» Мікалая Старыкава.

### Бульварнае чытво

Абодва пісьменнікі — расейцы. Мікалай Старыкоў займаецца стварэннем псеўдагістарычнай літаратуры, заснаванай на тэорыі змовы. Яго кнігі атрымліваюць негатыўныя ацэнкі ад гісторыкаў, што, аднак, не перашкаджае аўтару друкавацца ў буйных расійскіх выдавецтвах. Сам Старыкаў актыўна падтрымлівае Пуціна і яго палітыку. Выдавецтва «Камерсант» нават намінавала яго на прэмію «Лізасць да цела», якую даюць самым гарачым прыхільнікам Пуціна і Мядзведзева. Цяпер Старыкоў працуе дырэктарам пецярбургскай філіі Першага канала.

У кнізе «Украіна. Хаос і рэвалюцыя — зброя даляра» тлумачыцца, што падзеі ва Украіне арганізаваныя ЗША з мэтаю спісаць свой дзяржаўны доўг, вытурыць Расію з Чорнага мора і «стварыць побач з Расіяй абсалютна антырускую дзяржаву, дзе ўсе выдатна размаўляюць па-руску».

«Расія вярнулася ў вялікую геапалітыку. І ніякімі санкцыямі нас не запалохаць. Мы павінны быць моцнымі, каб хаос сышоў за межы Рускага свету. Каб ЗША пакінулі Украіну ў спакоі, каб на вуліцах нашых гарадоў больш не лілася кроў. Бо мы адзін народ. І таму што Расія пакліканая берагчы баланс справядлівасці ў свеце», — гаворыцца ў анатацыі да кнігі.




НАТАЛКА ВАСІЛЕВІЧ



**Прataіерэй Георгій Латушка: «Не дамо амерыканскаму ўдаву праглынуць беларускага труса!»**

Кніга маскоўскага пісьменніка Палікарпава — біяграфія аднаго з лідараў данецкіх тэрарыстаў Ігара Стралкова (сапраўднае прозвішча Гіркін). «Наваросія ў агні вайны. Ці стане гэтая вайна пунктам адліку адраджэння Расіі? Хто адкажа на гэтае пытанне? Быць можа, Ігар Стралкоў і яго сталёвыя паўстанцы, якія грудзьмі закрылі ад амерыкана-ўкраінскіх фашысцкіх ордаў гарады і вёскі Данбаса?» — кажа анатацыя.

### «Кнігі вязуць скрынямі»

«Наша Ніва» паспрабавала высветліць, хто прыняў рашэнне прадаваць такую неадназначную літаратуру ў царкве. «Агульнацаркоўнага органа, які б вызначаў асартымент кніг у царкоўных крамах, няма. Аднак кнігі, што выдаюцца ў беларускіх праваслаўных выдавецтвах, маюць грыф выдавецкай рады БПЦ. Іншая літаратура ў лаўках пры саборах мусіць мець добраслаўленне царкоўных уладаў, — расказвае прэс-сакратар Беларускай праваслаўнай царквы протаіерэй Сяргей Лепін. — Хто займаўся падборам літаратуры ў Свята-Петрапаўлаўскім храме, мне не вядома. У кожнай царкве гэтыя пытанні вырашаюць розныя людзі: ці сам святар, ці іншы чалавек, надзелены такімі паўнамоцтвамі. Калі спецыялісты па продажах прыязджаюць на закупы ў тую ж Расію, яны бяруць кнігі скрынямі. Можа, там і трапілася нешта не тое. А прадаўцы на месцы часам не ўнікаюць у тое, што прадаюць. Хочацца думаць, што ў царкве, дзе я служу, падобныя кнігі ніколі не з'явяцца ў продажы».

### Трус для амерыканскага ўдава

Аднак пасля размовы з супрацоўнікамі Свята-Петрапаўлаўскага сабора надзея на выпадковае з'яўленне кніг аб «кіеўскай хунце» зніклі. На наступны дзень пасля з'яўлення фотаздымка ў сецьве ні аднаго з дзвюх кніг у царкве не было. «Кнігі хутка разабралі, — запэўніла прадавачка Марыя. — Мала завезлі, а яна карыстаецца попытам. Нават людзі з Расіі хацелі набыць».

На пытанне, чаму лаўка дапусціла продаж правакацыйных кніг, якія да праваслаўя не маюць ніякага дачынення, Марыя сказала, што «кніга добрая», бо «ў ёй уся праўда пра падзеі ва Украіне». Паводле яе словаў, асартымент кнігарні маюць права падбіраць настаяцель царквы, стараста і казначэй, таму і продаж кніг Палікарпава і Старыкова быў узгоднены.

На жаль, заспець настаяцеля Свята-Петрапаўлаўскага сабора протаіерэя Георгія Латушку на месцы не ўдалося. На тэлефанаванне адказаў яго сын: «Настаяцелю ўжо тэлефанавалі журналісты з гэтай нагоды. Я не думаю, што ў вас будзе доўгая размова. Як ён ужо выказваўся, «мы не дамо амерыканскаму ўдаву праглынуць беларускага труса». Па сутнасці, гэта перадае ўсеагульнае меркаванне і стаўленне».

**Кірыла Хілько**

# Вірус Эбола дайшоў да Еўропы і Амерыкі

Ці пагражае **невылечная хвароба** беларусам?

Эпідэмія віруса Эбола выйшла з-пад кантролю, бо жыхары пацярпелых краін ігнаруюць інструкцыі, прынятыя пры каранціне. Рэсурс супрацоўнікаў «Дактароў без межаў» вычарпаны, а міжнародная супольнасць не выпрацавала адзінага плана дзеянняў, б'юць трывогу эксперты.

«У людзей паніка, яны не падпарадкоўваюцца каранціну, — кажа жыхар Конга, з якім мы звязаліся праз сацыяльныя сеткі. — Шмат хто хоча кудысьці збегчы. Краіны, якія пацярпелі ад віруса, не могуць даць рады ўласнымі сіламі. Да таго ж сітуацыю ўскладняюць самі людзі. У нас скептычна стаўяцца да асобаў у белых халатах. Часцяком хворых хаваюць ад медыкаў», — кажа жыхар Конга.

Інфекцыя перадаецца праз кроў, а таксама вадкасці арганізма і тканкі інфікаваных жывёл або людзей. Падчас успышкі вялікай рызыцы заражэння падвяргаюцца медработнікі.

У чалавека, які заразіўся вірусам Эбола, з'яўляюцца ліхаманка, моцная слабасць, баліць цела і галава. Пасля парушаецца работа нырак і печані, што прыводзіць да ўнутранага і вонкавага крывацёку.

Вакцыны ад хваробы пакуль не створаная. Сусветная асацыяцыя аховы здароўя дала дазвол на выкарыстанне прэпарату, які пакуль яшчэ не прайшоў клінічныя выпрабаванні на людзях. Але іспанскага ксяндза, які падчапіў хваробу ў Ліберыі, новы лек не ўратаваў.

Распаўсюд віруса прызнаны міжнароднай пагрозай. Штодня паведамляецца аб магчымых выпадках заражэння падарожнікаў, якія вярнуліся з Афрыкі. З падазрэннямі на ліхаманку Эбола за апошні тыдзень былі шпіталізаваны грамадзяне Кітая, Англіі, Канады, Германіі.

Краіны Афрыкі, дзе ідзе эпідэмія, слабыя.

Медыкі Сейшэлаў забаранілі футбольнай зборнай Сьера-Леонэ прылятаць у краіну, дамоўленасць аб правядзенні таварыскай гульні скасавалі ў апошні момант.

У Беларусі ўсталявалі кантроль за людзьмі, якія прыбылі з патэнцыйна небяспечных раёнаў Афрыкі. Жыхарку Брэстчыны абследавалі ў санітарна-каранцінным пункце і трымалі пад наглядам 21 дзень — столькі доўжыцца інкубацыйны перыяд хваробы. На шчасце, вірус не выявілі. «Сітуацыя пастаянна адсочваецца ў аэрапортах, на чыгуначных вакзалах. На гэты момант нагоды для хвалявання няма», — кажа галоўная доктарка Брэсцкага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Нэлі Гіндзюк.

**Вольга Гарапучык**

**Дарэчы, найлепшы футбаліст Зборнай Сьера-Леонэ Умару Бангура гуляе ў мінскім «Дынама».** Прэс-аташэ клуба паведаміў, што гулец адмаўляецца адказваць на любыя пытанні, звязаныя з эпідэміяй і яе наступствамі.

**Смяротнасць — 90%**

Першая ўспышка ліхаманкі Эбола была зарэгістраваная ў Афрыцы ў 1976 годзе. Тады смяротнасць у выніку гэтага захворвання склала 72%.

Цяперашняя ліхаманка з'явілася ў Заходняй Афрыцы і ўпершыню закранула гарадское насельніцтва. Яна выкліканая адным з пяці падтыпаў віруса, ад яго паміраюць каля 90% хворых. Колькасць ахвяраў перавысіла 1000 чалавек. У прыродзе вірус жыве на жывёлах, у тым ліку грызунах.

## Мільянер Машэнскі: «Беларусь вернецца ў Еўропу разам з Расіяй»

**Уласнік малочнага і рыбнага бізнэсу** даў інтэрв'ю газеце «Прессбол».

«Калі казаць пра менталітэт, то бліжэй за ўсё да нас паўночныя народы. Скажам, тыя ж скандынавы. У нас таксама высокі ўзровень адказнасці за выкананую працу. Мы, можа, не так хутка падпускаем іншых да сабе, але затое потым адносіны становяцца вельмі моцнымі», - кажа Аляксандр Машэнскі.

«Я часта казаў аб інтэграцыі з Еўропай на розных узроўнях і заўсёды паўтараў: калі б яна сапраўды хацела быць да нас бліжэй, трэба было адмяніць візы і гандлёвыя пошліны. І гэта быў бы самы кароткі шлях і прамы доказ таго, што нас хочуць бачыць у еўрапейскай сям'і.

— Вы мяркуеце, мы вернемся ў Еўропу?

— Думаю, так — разам з Расіяй. Не ведаю, ці заспею гэты час. Гэта было б вельмі магутнае аб'яднанне, супастаўнае па сіле з ЗША і Кітаем.

# Паказанні змяніліся: было каханне, а стала — гвалтаванне непаўналетняй

**Набокаўская гісторыя кахання разгарнулася ў Смалявічах.**

У мінулым нумары «Наша Ніва» пісала пра «лжэмінёра» сталічнага метро, якога абвінавацілі яшчэ і ў шэрагу сэксуальных злачынстваў.

Па версіі следчых, 34-гадовы Канстанцін згвалтаваў непаўналетнюю, меў сэкс з дзяўчынай, што не дасягнула 16 гадоў, а таксама паказваў непаўналетняй парнаграфію. Як высветлілася, у справе фігуруе суседка арыштаванага, Ксенія. На гэтым тыдні ёй спаўняецца 17 гадоў. Яна адмовілася размаўляць. Але пасля папярэдняй публікацыі адгукнулася сястра Канстанціна Любоў.

«Я пыталася ў Ксеніі пра іх адносіны: яна сказала, што палавая сувязь была, калі ёй было 16 гадоў. Па ўзаемнай згодзе (пры такіх абставінах крымінальнай адказнасці не ўзнікае — «НН»). І яна не хоча, каб ён сеў. Сябравалі, ён надта добра да яе ставіўся, пылінкі здзьмухваў. А пасля я даведалася, што паказанні змяніліся — нібыта ёй на той момант было 15 гадоў (за такое могуць пасадзіць на тэрмін ад 2 да 5 гадоў — «НН»). Пытаюся: «Навошта ты так робіш? Ён жа табе нічога кепскага не зрабіў». — «Не, не зрабіў». Сцвярджала, што не мяняла паказанні...


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

Я назірала іх адносіны. Яны стварылі свой маленькі свет: у яе сям'і не ўсё добра, у яго таксама. Адно аднаму дапамагалі. Дзеткі да яе прывязаліся, палюбілі, бо ім не хапала матчынай цеплыні».

Канстанцін да арышту жыў у Смалявічах, а працаваў на Трактарным заводзе ў Мінску. З жонкай ён разышоўся. Яе пазбавілі бацькоўскіх правоў, і ён сам гадаваў васьмігадовага сына Даніяра і шасцігадовую дачку Аяну. Цяпер Любоў займаецца афармленнем апекі над пляменнікамі. Мае яшчэ і сваіх трох дзяцей.

«Косця моцна любіць сваіх дзяцей і хвалюецца за іх. Але з імі ўсё добра. Вядома ж, моцна сумуюць па тату і па Ксюшы, па доме. Я здала ўсе патрэбныя дакументы для апекі — чакаю адказу. А яшчэ мы



Ксенія (у цэнтры) не выглядае пакрыўджанай.
З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

чакаем сумленнага суддзю. Брат мог напісаць што заўгодна, але гэта не сведчыць пра яго намеры», — не стрымлівае эмоцыі сястра.

Мужчыну затрымалі ў лютым. Падставай паслужыла эсэмэска, якую падгледзела ў метро студэнтка. Яна і паведаміла ў міліцыю. Па інфармацыі Следчага камітэта, тэкст паведамлення быў наступны: «У мяне бомба, я ў метро, дзе ўзарваць, код актывацыі падкажы». Вінавацяць яго ў загадзя ілжывым паведамленні пра небяспеку. Канстанціну пагражае да 7 гадоў калоніі. Праўда, юрысты ад пачатку звярталі ўвагу, што падстава для крымінальнай справы сумнiўная. Маўляў, Канстанцін не паведамляў пра меркаваны выбух у міліцыю, гэта быў дурны жарт у прыватнай перапісцы. У рэальнасці падстаў для небяспекі не было. А калі хісткасць абвінавачання зразумелі і самі следчыя, пачалі капаць у іншым кірунку, які раптам ўдалося знайсці, — у бок стасункаў з непаўналетняй суседкай.

Між іншым, 16-гадовая Ксенія прысутнічае на многіх фотаздымках на старонцы Канстанціна ў сацыяльных сетках. Дый у яе самой на кожным чацвёртым фота альбо Канстанцін, альбо дзеці, альбо яго дом. І ніяк не скажаш, што яна на здымках чымсьці пакрыўджаная.

**Сяргей Макарэвіч**

# Смяротная доза

**Трое прыяцеляў разам памерлі ад перадозу.**

Трупы траіх прыяцеляў знайшлі 7 жніўня каля вуліцы Ілімскай, у лесе за МКАД. Двaім — па 26 гадоў, трэцяму — 35. Разам жылі ў вёсцы Каралёў Стан.

Маладыя людзі не выйшлі на працу. Тады і загаварылі пра магчымую трагедыю. Напярэдадні яны атрымалі заробак. Што ўжывалі наркотыкі, сакрэтам на працы не было. Таму іх знаёмы, у якога працавалі мужчыны, і заявіў пра тое ў міліцыю. Паказаў і месца, дзе тыя маглі «шырацца».



На траіх наркаманаў шпрыцаў знайшлі сем.
СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

Трупы знайшлі без слядоў гвалтоўнай смерці: толькі «дарожкі» ад шматлікіх уколаў. А побач валяліся выкарыстаныя шпрыцы. На тры трупы шпрыцаў было сем. Прычынай смерці стала перадазіроўка метадонам. «Загінулыя, акрамя наркотыкаў, ужылі вялікую колькасць спіртнога. А спалучэнне «алкаголь + наркотык» само па сабе вельмі небяспечна для здароўя і жыцця», — адзначыў начальнік упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі ГУУС Мінгарвыканкама Канстанцін Ляшкевіч. Праўда, эксперты паправілі: нападпітку былі толькі двое (0,7 і 1,1 праміле алкаголю), трэці не піў.

Між іншым, аднаго з прыяцеляў ужо судзілі за наркату. Другі трапляў у бальніцу з перадозам. А ў трэцяга на глебе ўжывання наркотыкаў назіралася псіхічнае расстройства.

Цяпер аператыўнікі шукаюць тых, хто прадаваў наркотык. Эксперты выявілі, што метадон быў разбаўлены лекамі. Па словах Ляшкевіча, прадаўцамі маглі быць цыганы: «Менавіта яны пры рэалізацыі разводзяць метадон яшчэ адным медыцынскім прэпаратам».

Між іншым, месяц таму ў сталічным Паўночным пасёлку аператыўнікі канфіскавалі буйную партыю метадону. Тады затрымалі 50-гадовую цыганку і яе 37-гадовага прыяцеля. Іх «накрылі» побач з домам жанчыны падчас чарговага збыту наркотыку. Пры аглядзе падворка аператыўнікі выявілі схованку, у якой знаходзілася 200 грамаў метадону. Гэтага хапіла б на 1000 доз і каштавала б $25 тысяч. Абое ўжо былі судзімыя за наркату.

**СМ**

**Метадон —**

гэта сінтэтычнае рэчыва, якое ўяўляе сабой празрыстую вадкасць альбо таблеткі. Яго глытаюць, колюць ці разводзяць і п'юць. Спачатку яно выкарыстоўвалася выключна як моцны абязбольвальнік. Уздзеянне на арганізм падобнае да гераіну, пачынаецца праз паўгадзіны і можа працягвацца да сутак. Акрамя эйфарыі, у спажыўца пачынае кружыцца галава, павышаецца пітлівасць, ёсць ванітуе. Метадон выкарыстоўваецца для лячэння наркаманіі. Але таксама выклікае залежнасць.

# Дзёрзкі разбой

**З самаробнымі бітамі нападнікі ўрываліся ў вясковыя хаты.**

Два разбоі здзейснілі былыя сукамернікі ў Віцебскай вобласці.

22 ліпеня ў дом у вёсцы Берастні Бешанковіцкага раёна ўварваліся двое мужчын у масках і з драўлянымі бітамі. Гаспадароў звязалі і збілі. Скралі 1 мільён рублёў і ювелірныя ўпрыгожанні. Муж і жонка былі шпіталізаваныя. У бальніцы гаспадар памёр ад атрыманых траўмаў.

А 30 ліпеня разбой паўтарыўся ў вёсцы Падлазнікі Віцебскага раёна. Тыя ж двое ў масках з драўлянымі палкамі. Скралі 300 тысяч рублёў, залатыя ўпрыгожанні і мабільнік. Гаспадара налётчыкі збілі, і неўзабаве мужчына памёр.

Нападнікаў затрымалі. Гэта жыхары Шумілінскага раёна, 1973 і 1976 гадоў нараджэння. Раней судзімыя. Разам сядзелі ў турме.

«Ужо на першапачатковым этапе расследавання высветлена, што абвінавачаныя перад здзяйсненнем злачынства выконвалі цэлы комплекс падрыхтоўчых мерапрыемстваў: майстравалі з дрэва прылады злачынства, прадметы маскіроўкі, шукалі дамы, у якіх, на іх думку, маглі быць значныя грашовыя ашчаджэнні. Трэба адзначыць, што ў абодвух выпадках абвінавачаныя памыліліся ў сваіх здагадках і здзейснілі напады на сямейныя пары сярэдняга дастатку», — адзначыла прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

**Кастусь Матушыч**

## Сціссла

### Пракраліся на «Нафтане»

Следчы камітэт расследуе крымінальную справу супраць трох кіраўнікоў «Нафтана», у тым ліку намесніка гендырэктара. Іх вінавацяць у перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Справа тычыцца працэдур куплю і выканання кантрактаў. Менеджары затрыманыя, пад вартай знаходзяцца і трое кіраўнікоў прыватных кампаній. Нанесеная шкода ацэнена ў 4 мільярды рублёў. Маёмасць абвінавачаных знаходзіцца пад арыштам, а падчас ператрусаў у іх канфіскавалі паўмільёна даляраў. Арыштаваная таксама сем дарагіх аўто, ювелірныя вырабы.

### Спалілі фотарадар

Затрыманы хуліганы, якія, як мяркуецца, скралі фотарадар у Быхаўскім раёне. Прыладу за 25 тысяч еўра знайшлі спаленай у



лесе. Аператыўнікі вылічылі трох падазраваных. Двое затрыманы, трэцяга шукаюць. Адзін з іх, між іншым, прыцягваўся да адказнасці за парушэнне Правілаў дарожнага руху больш за 60 разоў. Цяпер ім пагражае ад 7 да 12 гадоў калоніі.

### Асудзілі забойцу святара

14 гадоў у калоніі правядзе 23-гадовы хлопец, які летась забіў айца Аляксандра Марозава. Святар служыў у храме Перамянення Гасподняга ў аграгарадку Смаляны ў Аршанскім раёне. Ён прытуліў у сваім доме хлопца, які пазней нападпітку падчас спрэчкі і зарэзаў бацюшку.

### Збілі сям'ю

Каля гадзіны ночы 2 жніўня насупраць дома 3 па вул. Мірашнічэнкі ў Мінску кампанія маладых людзей (5 хлопцаў і 3 дзяўчыны) збіла сямейную пару. 23-гадовы мінчук атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні ўнутраных органаў. Прыкладны ўзрост нападнікаў 18—23 гады. У адной з дзяўчын фарбаваныя ў белы колер валасы. Міліцыя просіць адгукнуцца магчымых сведкаў: (017) 200-60-36, (029) 356-02-02.

**КМ**

# Першая сталіца Беларусі

**Музеі Полацка**

- Музей Сафійскага сабора
- Музей традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я
- Мастацкая галерэя
- Краязнаўчы музей
- Музей беларускага кнігадруку
- Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага
- Дзіцячы музей

**У Полацку поўна турыстаў з Расіі. Яны завялі моду засоўваць у шчыліну Барысавага каменя манеты. Ці то на шчасце, ці то ў ахвяру. А беларусы папугайнічаюць, тычуць туды сторублёўкі. На фота: Святая Сафія.**

Полацк — горад на Дзвіне. Існуе прынамсі ад IX ст. Па-беларуску яго назва правільна вымаўляецца паўнагучна: «Полацак». Назву атрымаў ад рэчкі Палата, што ўпадае ў Дзвіну. Быў сталіцай Полацкага княства. Тут княжылі Рагвалод, Усяслаў Чарадзей. Тут Уладзімір захапіў Рагнеду. Тут заснавала манастыр святая Еўфрасіння Полацкая (манастыр і Спаса-Еўфрасіннеўская царква захаваліся). Полацк — радзіма Францішка Скарыны, Юрыя Тарыча, Уладзіміра Арлова, Лявона Баршчэўскага. Цяпер тут жыве 85 тысяч чалавек.



**Жылы дом па вуліцыСкарыны.**



**У Полацку гуляюць вяселлі. Скрозь па Беларусі гуляюць: Пятроўка скончылася, самы час вяселляў.**



**Маладыя мамы з дзецьмі п'юць кактэйлі ў летняй кавярні.**

Улетку, у будні дзень, па старадаўніх вуліцах Полацка гуляюць пераважна турысты — гарадскі тлум застаецца недзе далёка. Цішыню горада ў пятніцу парушаюць вясельныя картэжы — маладыя спыняюцца для фотасесій у знакавых месцах. У цяньку, пад шатамі дрэў, маладыя мамы пільнуюць сны сваіх немаўляткаў. На цэнтральнай плошчы раскінуўся дзіцячы гарадок з атракцыёнам-коўзанкай.

Полацк, нягледзячы на свой правінцыйны статус, паступова адраджае турыстычныя аб'екты і памяць аб сваёй гісторыі і выбітных ураджэнцах.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара.**



**А пад засенню дрэваў малады салдат сустракаецца са сваёй дзяўчынай. Вуліца Пакроўская.**

# Былы дэпутат Ананьеў заклікае замяніць выбары плебісцытам аб даверы Лукашэнку

«Сёння патрэбна простая працэдура плебісцыту — фінансава спрошчанага апытання грамадзян нашай краіны з высвятленнем адной тэмы абмеркавання «Ці давяраеце Вы Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку кіраваць дзяржавай да 2020 года — года ўводу другога энергаблока Астравецкай АЭС?» — піша былы дэпутат палаты прадстаўнікоў Раман Ананьеў у лісце, дасланым у газету «Наша Ніва».

Такія плебісцыты праводзіліся для працягу паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы ў Туркменії, Сірыі ды іншых дыктатурах.

«Якія выбары-2015? — піша Ананьеў. — Каму трэба гэтае пустое марнаванне грошай з дзяржаўнага бюджэту? Беларусы за апошнія паўгода наглядзеліся ўсялякіх еўрамайданаў, аўтамайданаў, антымайданаў, SOS-майданаў. Не... Нам гэтага не трэба! Нам трэба атамную электрастанцыю дабудаваць, каб нашы наступныя пакаленні не хадзілі з працягнутай рукой, прабачце, пішу без сарказму, па гэтак патрэбную энергію для эканомікі Рэспублікі Беларусь, якая бурна развіваецца ў XXI стагоддзі».

Ананьеў прызнае, што працэдуры для адмены выбараў няма.

Але, піша ён, «ёсць 110 дэпутатаў, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы, сенатары, розныя праваавыя цэнтры, няхай думаюць, заробак у іх не нізкі».

Свой допіс ён суправаджае антызаходняй рыторыкай: «Бо ўжо ўсім людзям, які больш-менш



цямяць у палітыцы, зразумела, што за прынцыповую пазіцыю А.Р. Лукашэнкі ў пытанні еўразійскае інтэграцыі, нам спадары Макейн, Сікорскі і іншыя рыхтуюць свой план не Маршала, а Апакаліпсісу».

Ананьеў працаваў дырэктарам ЗАТ «Белнафтагаз» і дэпутатам ад Лепельскай акругі. Ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, застаўся працаваць у палацы прадстаўнікоў першага склікання, а пасля застаўся там і на другое скліканне.

**Ад Рэдактара.** Дарагі дэпутат Ананьеў, Вы адарваны ад жыцця чалавек. Пра якія выбары Вы гаворыце? Даўно няма ніякіх выбараў. Чытайце старонку 1.

# Ліст з турмы ад Васіля Парфянкова

Вітаю, шаноўная «Наша Ніва»! Піша вам Васіль Парфянкоў. Я не ведаю, ці выйдзе гэты ліст за калючы дрот, ці будзе ён мець нейкія негатыўныя наступствы для мяне, але не напісаць яго было б для мяне непавагай да тых людзей, якія падтрымалі мяне і павіншавалі з Днём Незалежнасці. На жаль, мне давялося сустрэць гэты дзень у ШІЗА, але калі я выйшаў адтуль, мяне чакаў цэлы стос лістоў з віншаваннямі. Я шчыра дзякую ўсім, хто напісаў мне, за цёплыя словы падтрымкі, вашыя лісты зарадзілі пазітывам.

Я таксама хачу павіншаваць усіх сапраўдных беларусаў з гэтым днём, пажадаць усім цярпення і веры. Цяпер у Беларусі людзей, якія стаяць за праўду, кідаюць за краты, але я ўпэўнены, што гэта ненадоўга і ўжо хутка нам усім заззяе сонца Свабоды. Памятайце толькі наказ, што «за Волю змагацца ў адзінстве лягчэй, згуртуемся, хай жа баіцца зладзей».

За мяне не хвалюйцеся: я ўсё вытрымаю. А астатнім палітзняволеным зычу найхутчэйшага вызвалення. Трымайцеся, браце! На нашым баку праўда.

Жыве вечна Вольная Беларусь! Слава героям!

**Васіль Парфянкоў, Горкі, ВК-9**



Меркаванні

# Чаму ўкраінскае войска выклікае ў мяне зайздрасць?

Піша **Сяргей Навумчык**.

Украінскае войска раскрадзенае, усе баяздольныя фармаванні складаюць добра калі пару дывізій, але яно бароніць Украіну. Бароніць крывёю і жыццямі.

У Беларусі войска — дзясятак дывізій, з добрай тэхнікай, але бараніць Беларусь яно не будзе. Бараніць не ад фантомнага «ворага» ў абліччы НАТА, а ад рэальнага — пуцінскай Расеі.

У ніжэйшых афіцэраў мазгі прамытыя заклікамі «Мы — з Расеяй», ну а генералітэт мае дыпломы маскоўскіх акадэмій, і ў значнай колькасці месца нараджэння — Расея.

Газета Мінабароны рэгулярна піша пра распад СССР як злачынства, беларуская мова ў войску не практыкуецца. (Што гэта за войска, дзе забаронена дзяржаўная мова? Правільны адказ: войска іншай дзяржавы).

Нарэшце, вайсковая дактрына РБ — арганічная частка вайсковай дактрыны АДКБ, якая распрацоўваецца маскоўкім Генштабам.

Тое, што называюць беларускім войскам, — насамрэч, войска акупацыйнае, фактычна — расейскае. І трэба, як бы ні было гэта горка, прызнаць гэта як факт — каб не мець ілюзій і спадзяванняў.

**Сяргей Навумчык, Прага, Facebook.com**

Прыватны дзённік

# Адна шкарпэтка

Піша **Алена Германовіч**.



Пайшлі з малымі набываць такія-сякія рэчы. Малому трэба былі сандалі. Пайшлі на кірмаш. Сандалі трэба прымяраць на шкарпэткі, я так думаю. Хай я памыляюся, і іх не трэба прымяраць на шкарпэткі, але я так думаю, і таму так раблю, як думаю. Таму малы пайшоў у іншых сандалях, а з сабой я ўзяла шкарпэткі — чыста на прымерку. Сандаляў было шмат, і ўсе былі, канечне, абы-што. Наогул, як можна такое прадаваць за грошы. Было спякотна, і наогул мы ўсе ненавідзім хадзіць па крамах і кірмашах, для нас усіх гэта шок і жах, адзінае, што мы набываем сабе падчас паходаў, нішцякі розныя: хто што хоча, малыя ведаюць, што ў такіх пакутлівых паходах я дазваляю ўсе гадасці набываць, шкодныя прадукты, каб хоць нечым збіць гэты негатыў. І вось пры чарговай прымерцы малы надзеў адну шкарпэтку (бо прымяраем жа адну частку пары) на левую нагу. Прымералі, канечне — абы-што. Я малому кажу, маўляў, навошта здымаць шкарпэтку, так і хадзі, пакуль не знойдзем нармальных абутак. Малому пляваць на грамадскае меркаванне, таму ён не пераймаўся, так і хадзіў па крамах і кірмашах. Ды і мне менш гемару. І вось на кірмашы я сустракаю знаёмага крышнаіта.

Я здзівілася, што крышнаіт працуе на кірмашы, торбы нейкія скураныя жаночыя прадае. Я кажу: ні фіга сабе! Ты што — торбы прадаеш? Ён: ну а што тут такога? Ну, кажу, неяк дзіўна, ты ж прапагандаваў, што не варта працаваць і ўсё такое...

А крышнаіт кажа: а вось чаму твой малы ў адной шкарпэтцы, я фігею, як так можна хадзіць — у адной шкарпэтцы? Я кажу: а што тут такога? Ці Крышна супраць свабоды? Ну хоча мой малы хадзіць у адной шкарпэтцы — і што з таго? Што — законам ці рэлігіяй забаронена?

А той кажа: ды ну, дзіўна неяк, і смешна — хадзіць у адной шкарпэтцы!

Я кажу: а вось крышнаіт прадае торбы — можа, нават з кароў ці быкоў — нічога дзіўнага і смешнага?

Такая была размова.

А сандалі знайшлі. Нармальныя раптам былі ў адной краме. Але малы так і застаўся ў адной шкарпэтцы. Ён забыўся, і я таксама. Потым ужо, па вяртанні дахаты, на вуліцы, я кажу: можа, усё-такі здымай ужо тую шкарпэтку? А малы кажа: і што? Мне ўсё роўна, хто там што пра мяне думае, мне галоўнае — што ты пра мяне думаеш, а не нехта там. Ах ты ж!

Аднойчы, ён быў у трэцім класе... Зімой настаўніца павяла іх у ляльчны тэатр. Была адліга, на вуліцы быў трохі мароз, лёд і лужыны. А малы быў у «зменцы» — сандалях. Настаўніца не заўважыла, а ён не змяніў «зменку» на боты — так і пайшоў па марозе, як піянер-герой. Мне настаўніца патэліла ў роспачы, толькі пасля, здаецца, тэатра яна заўважыла, што адзін яе вучань прыйшоў разам з ёй з гімназіі ў тэатр у сандалях па марозе.

Нічога, усё абышлося тады.

**Алена Германовіч, Гомель, Facebook.com**

## Прыватныя абвесткі



Спадчына

# Вада сцюдзёная, гаючая!





Крыніца ва ўрочышчы Грамякі (Пастаўскі раён) лічылася гаючай. Стараннямі іерэя Анатоля Папова, працай прыхаджанаў царквы Асінгарадка месца было добраўпарадкавана, берагі ўмацаваныя камянямі. Штогод у другую суботу жніўня на крыніцы адбываецца вадасвятны малебен у гонар Вялікапакутніка і лекара Панцелеймона. Магутны струмень у крыніцы Грамякі, і сённяшняя трапічная спёка ніяк не паўплывала на яго магутнасць. Крыніца ўтварае невялікае азярцо дыяметрам пад дзесяць метраў. У цэнтры азярца вада нібыта — кіпіць, гэта б'юць паўсотні камянёў.

Вада зеленавата-блакітная, і не плавае тут ні жаба, ні жук.

«У крыніцы — не купацца!– папярэджвае святар. — Былі выпадкі, і неаднойчы, людзі тут тапіліся!»

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

# А на пенсію пераехаў у Прагу

Памёр патрыярх беларускай дыяспары Юрка Станкевіч.

Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў Вільні ў сям'і выдатнага мовазнаўцы Янкі Станкевіча і чэшкі Марыі Новакавай. На інжынера вывучыўся ў ЗША, дзе пазней і працаваў, атрымаў грамадзянства. На пенсію пераехаў у Прагу. Сябра Рады БНР, заснавальнік суполкі «Пагоня». Сузаснавальнік і галоўны рэдактар часопіса пра Беларусь па-ангельску Belarusian Review, выдаваў таксама электронны часопіс «Крывія».

Запачаткаваў дзейнасць у Празе беларускай клубоўні, якую падтрымаў фінансава. Напісаў падручнік па гісторыі Беларусі для беларускіх школ за мяжою, уклаў беларускую чытанку. Арганізатар беларускай нядзельнай школы ў Празе.

«Ад першага спаткання напрыканцы 1990-х гэты чалавек не пераставаў мяне здзіўляць, — расказвае беларускі праграміст з-пад Пардубіцэ Андрэй Рамашэўскі, былы кіраўнік Партыі аматараў піва. — Юрка кіраваў суполкай «Скарына» — на той час адзінай беларускай арганізацыяй Чэхіі. Кіраваў дасканала: кожнага сябра суполкі ведаў асабіста, усе памятаў, з кожнага пасяджэння рабіў пратакол, які атрымлівалі і прысутныя.

Зразумела, што і з веданнем чэшскае мовы ў Юркі не было праблемаў, таму пры камунікацыі з чэшскімі дзяржаўнымі органамі яму не было роўных сярод беларусаў. Дзякуючы гэтаму, суполка ніколі не мела праблемаў з памяшканнямі для акцыяў і рэгістрацыяй.

Я таксама супрацоўнічаў з Юркам у рэдакцыі Belarusian Review. Ніколі ў жыцці я не бачыў чалавека ягоных гадоў, які б так добра і беспраблемна працаваў з камп'ютарамі — ад першых прымітыўных CMS да ўдасканаленых DTP.

Апошні раз ён мяне здзівіў, калі прыехаў да нас у вёску на сваім аўто. Ягонай хуткасці, рэакцыі і здольнасці арыентацыі маглі б пазайздросціць многія маладыя кіроўцы. У абліччы ціхага дзядулі заўсёды хаваўся малады хлопец, але з жыццёвым досведам і прынцыповай пазыцыяй».

«У кожным асяродку ёсць чалавек, на якім трымаецца ўсё. Такім быў Юрка Станкевіч для беларускага жыцця Прагі. На беларускасць ён ніколі не шкадаваў ні ўласнага часу, ні грошай. Большасць з таго, што тут было арганізавана, — дзякуючы яму. Гэта велізарная страта, якой няма замены», — кажа палітуцякач Аляксей Шыдлоўскі.

«Дзед — так трошку фамільярна (але адначасова і па-сямейнаму, па-блізкаму) звалі спадара Юрку ў вузкім коле», — успамінае сп.Станкевіча беларуска з Прагі, фатограф Ксенія Бязрукая.

«Быў такі момант, як Дзедавы рэгулярныя тэлефанаванні. Па суботах у пражскай «Клубоўні» ладзіцца школка для малых беларусаў (Юрка Станкевіч яе колькі гадоў таму задумаў і зарганізаваў.) Дык вось, шторазу напярэдадні заняткаў ён абзвоньваў бацькоў і настаўнікаў (настаўнічала і я), ветліва нагадваў. Камусьці лянотна ехаць у выходны ў цэнтр з прыгараду, хтосьці хоча спланаваць іншыя мерапрыемствы, у кагосьці дзве працы (эмігрантам выжыць няпроста), але пасля такіх простых душэўных запрашэнняў сумленне не дазваляла адмовіць. Дзеда можна было назваць нашым (чэшскіх беларусаў) сумленнем.


Ксенія Бязрукая

Спадар Станкевіч, дарма што 1928 года нараджэння, быў сучасным мабільным чалавекам, тэлефон з рук не выпускаў, кіраваў машынай, цудоўна абыходзіўся з камп'ютарамі, ягоны макбук ніколі не прастойваў. Апошняе, пра што ён мне казаў, ужо слабым голасам, за пару тыдняў да сыходу, пра слоўнік. Ён укладаў беларуска-англійска-чэшскі слоўнік, працаваў над ім да рэшты прытомнасці.

Гэта быў чалавек бяздоннай, чыстай дабрыні. Ніколі не бачыла, каб ён злаваў ці хоць бы раздражняўся. Да яго ішлі і выгаварыцца, і параіцца, сёй-той нават пазычыць грошай (меў добрую амерыканскую пенсію).

Чалавек усё паспеў, пражыў і сышоў годна, у маіх слязах не роспач і шкадаванне, а павага і ўдзячнасць», — заканчвае Ксенія Бязрукая.

Пахаваюць спадара Юрку Станкевіча 15 жніўня на могілках у Кладне, за 25 кіламетраў ад Прагі.

**Зміцер Панкавец**

# Робін Уільямс. Жарты і думкі

Знакаміты амерыканскі акцёр памёр **у 63 гады.**

Ён быў знойдзены мёртвым у сваім доме ў Каліфорніі. У паліцыі кажуць, што ў якасці асноўнай версіі разглядаюць самагубства.

Уільямс — уладальнік прэміі «Оскар» і некалькіх «Залатых глобусаў». Ён вядомы ў тым ліку па фільмах «Таварыства мёртвых паэтаў», «Добрай раніцы, В'етнам» і мностве іншых. За ролю ў карціне «Разумнік Уіл Хантынг» ён быў узнагароджаны ўзнагародай Амерыканскай кінаакадэміі як найлепшы акцёр.

«Робін Уільямс быў лётчыкам, доктарам, джынам, выхавальнікам, прэзідэнтам, прафесарам, клапатлівым Пітэрам Пэнам і шмат яшчэ кім. Але ён быў адзіным у сваім родзе», — гаворыцца ў заяве прэзідэнта ЗША Барака Абамы.

- Кожнаму з нас дадзена толькі маленькая іскра вар'яцтва. Старайцеся не загасіць яе.
- Мяне заводзіць, калі ў пакоі больш, чым адзін чалавек. Вось і ўсё! Як толькі ты пачынаеш чуць чыйсьці смех, гэта бярэ цябе і цягне ўверх.
- Мы, амерыканцы, простыя хлопцы. Але толькі паспрабуйце падаср...ць нам, і мы разбамбім вашыя гарады.
- Ніколі не біцеся з дурнымі людзьмі. Ім губляць няма чаго.



- Што б вам ні казалі людзі, але словы і ідэі не могуць змяніць свет.
- У Іраку да мяне часта падыходзілі людзі і казалі: «Можна ў вас папрасіць аўтограф?» А я казаў: «Ну так. Вы толькі апусціце спачатку аўтамат». Адна дзяўчына падышла да мяне за аўтографам, і яе ствол глядзеў мне проста ў рот. Потым вярнуліся хлопцы з патрулявання. У кожнага было па здараваннай стрэльбе, і ўсе яны былі зняты з засцерагальнікаў. Я сказаў: «Гэй, пілігрымы, можа вы паставіце вашыя драбавікі на засцерагальнікі? Яны ж настаўленыя проста на мае яйкі. Я не хачу стаць падобным да лялькі Кена!»
- Калі вы памятаеце шасцідзесятыя, вы тады не жылі.
- Калі я ўпершыню пакаштаваў белы хлеб з налепкай «Экалагічна чысты прадукт», у мяне было адчуванне, што я жую нейкі танны рубероід.
- Я перастаў піць, калі ў мяне з'явіліся дзеці, таму што я хацеў заўсёды быць напагатове. Я не хацеў бы прапусціць ні адной рэчы, якую дзеці кажуць або робяць. Гэта вельмі важна для мяне. Калі ў вас дзеці, вы заўсёды сканцэнтраваныя. Вы ходзіце абхезаныя, але гэта крута. Вось чаму я перастаў піць.
- Калі мой бацька сыходзіў на пенсію, ён мімаходзь заўважыў, што ў мяне нарэшце пачынае нешта атрымлівацца. Ён сказаў: «Калі са мной што, глядзі маму». Гэта была вялікая хваліна, таму што насамрэч ён меў на ўвазе «Ну вось, цяпер твая чарга».
- Ніколі нічога не бойцеся. У крайнім выпадку, хай страх будзе вашым натхненнем.
- Калі я памру, скачыце на маёй магіле і палівайце кветкі тым, што п'яце самі. Рабіце, што хочаце, толькі не клануйце мяне, бо клон ніколі не будзе такім жа, як я.

**Бібліятэка**

# Упершыню апублікавана следчая справа Кастуся Каліноўскага

Гэтыя пажоўклыя ад часу дакументы гарталі Уладзімір Караткевіч і Аркадзь Куляшоў.

Першы — калі пісаў п'есу «Кастусь Каліноўскі». Другі — калі працаваў над «Хамуціусам». Да папер звярталіся Генадзь Кісялёў і Язэп Янушкевіч, якія пісалі гісторыю легендарнага паўстання 1863 года.

Гаворка пра «Справу Часовага палявога аўдытарыята пры штабе войскаў Віленскай ваеннай акругі аб дваранінe Гродзенскай губерніі і павета Вінцэнту Каліноўскім», якая захоўваецца ў Вільні, у Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве.

У розныя гады яе асобныя фрагменты змяшчаліся ў зборніках дакументаў, цытаваліся ў гістарычных даследаваннях і ў інтэрнэце (у апошнім выпадку — часта недакладна і з памылкамі).

Але цалкам справа не друкавалася ніколі. Гісторык Зміцер Кузьменка ўпершыню паказаў усе дакументы чытачу. Зборнік «Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага», укладзены ім, выйшаў у выдавецтве «Галіяфы».




У кнігу ўключаны 33 дакументы. Першы датаваны 29 студзеня 1864 года. У ім Каліноўскі прызнае сваё сапраўднае імя.

Таму, хто будзе вывучаць гісторыю паўстання 1863 года, не абысціся без гэтай кнігі. Кошт выдання на сайце айчыннай інтэрнэт-крамы «Імбрык» — 100 тысяч.

**Мікіта Капкоў**

ГРАФІЦІ ПАБ-КЛЮБ

20/08 19:00

КРАМА

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Македонія



**Праходзіць адборачны турнір на Еўрабаскет-2015** сярод мужскіх зборных. 17 жніўня нашы хлопцы ў Палацы спорту (Няміга, 4) прымуць македонцаў. Пачатак а 18.

## ФУТБОЛ

### Тур 21

**16—17 жніўня** адбудуцца матчы чарговага тура чэмпіянатуБеларусі па футболе.

У суботу гуляюць:
БАТЭ (Барысаў) — «Дняпро» (Магілёў);
«Дынама» (Мінск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — цэнтральны матч тура;
«Белшына» (Бабруйск) — «Шахцёр» (Салігорск).
У нядзелю:
«Слуцк» — «Нафтан» (Наваполацк);
«Дынама» (Брэст) — «Нёман» (Гродна);
«Гомель» — «Мінск».







### Перазвон стагоддзяў

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (пр-т Незалежнасці, 116, 3-ці паверх)** праходзіць выстава праекта «Перазвон стагоддзяў», прымеркаваная да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны. Выстава дзейнічае да 10 верасня.

## ІМПРЭЗЫ

### «Залессе запрашае сяброў!»

**Тэмай свята сёлета стануць дажынкі:** як яны некалі праходзілі ў маёнтку князя М.-К. Агінскага.

Будзе смачна, цікава і весела: гасцей свята парадуюць музыкі не толькі з Беларусі, але і з Польшчы ды Латвіі. Чакаюць таксама народных майстроў. На свяце выберуць найлепшы падворак. Фестываль-кірмаш «Залессе запрашае сяброў!» распачнецца 16 жніўня а 12-й гадзіне каля палаца роду Агінскіх.

## ФЭСТЫ

### Фэст індыйскай культуры

**16 жніўня а 11 у парку імя Горкага** пачнецца Фестываль індыйскай культуры.

## КАНЦЭРТЫ

### Гарык Сукачоў

**15 жніўня ў Prime Hall (пр-т Пераможцаў, 65)** выступае Гарык Сукачоў. Пачатак а 21.

### Вечар памяці Цоя

**15 жніўня а 18 у клубе «Піраты» (пр-т Партызанскі, 6А)** пройдзе вечар памяці Віктара Цоя, прагучаць найлепшыя песні гурту «Кіно» ў выкананні беларускіх кавер-бэндаў.

## ВЫСТАВЫ

### Мутуалістычныя стасункі

**Трэці год запар галерэя «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37А)**, арганізацыя «Экадом» і ўстанова «Агра-Эка-Культура» ладзяць агракультурны фэст і выставу, прысвечаную праблемам экалогіі.

Сёлета пад навуковай назвай праекта («Мутуалістычныя стасункі») хаваецца зварот мастакоў да самых непрыкметных з'яваў прыроды, паглыбленне ў гарманічны стан ды пошук самога сябе як часткі агульнай эка-сістэмы. Мутуалізм (паангельску Mutual — узаемны) — шырока распаўсюджаная форма ўзаемакарыснага суіснавання.

## КІНО

### Дабро родам з каналізацыі

Чарапашкі-ніндзя
**Жанр:** фантастыка, баявік, камедыя, прыгоды
**Рэжысёр:** Джонатан Лібесман
**У ролях:** Меган Фокс, Алан Рычсан, Джоні Ноксвіл, Наэль Фішар, Уіл Арнет, Уільям Фіхтнер, Вупі Голдсберг, Джэрэмі Ховард
ЗША, 90 хв.

У Нью-Ёрку лютуе жорсткая банда, якая імкнецца захапіць кантроль над горадам, — клан Фут на чале з японскім майстрам Шрэдэрам. Супрацьстаць іх разбуральнай дзейнасці мужная чацвёрка чарапах-мутантаў, ахвяр даследчыкаў, якія некалі спрабавалі найсці спецыяльны мутаген. Цяпер Мікеланджала, Данатэла, Рафаэль і Леанарда гатовыя выйсці з каналізацыі, дзе правялі ўсё жыццё ў бясконцых трэніроўках, каб разам з новай сяброўкай Эйпрыл разгадаць план Шрэдэра і абараніць увесь горад ад пагрозы.

Выхад фільма прымеркаваны да 30-годдзя франшызы: у 1984 выйшаў першы комікс пра чарапах-ніндзя Teenage Mutant Ninja Turtles. З таго часу гісторыя распаўсюдзілася ў іншых фарматах (кіно, гульні і мультфільмы). Найбольш знакаміты з іх — мультсерыял 1987, адкуль сталі вядомыя сюжэт і дэталі гісторыі: чацвёрка падлеткаў чарапахніндзя разам са сваім пацукомнастаўнікам Сплінтэрам жыве ў каналізацыі, змагаецца за спакой Нью-Ёрка, любіць піцу і мае сяброўку сярод людзей — тэлевядучую Эйпрыл О'Ніл. Стужка 2014 захоўвае гэтыя знаёмыя дэталі і расказвае тую самую гісторыю, выкарыстоўваючы сучасныя тэхналогіі для стварэння найбольш рэалістычнага відовішча.

Фільм арыентаваны найперш на падлеткавую аўдыторыю, якая захапляецца сучаснай поп-культурай. Крутыя бойкі, заснаваныя на ўсходніх адзінаборствах, баявая машына, якой карыстаецца Шрэдэр, месцамі псеўдадакументальная манера здымак робяць фільм захапляльным. Аднак схільнасць амерыканскіх кінавырабаў да празмернай драматызацыі і тупаваты гумар часам псуюць уражанне.

Ужо вядома, што аматараў франшызы чакае мінімум трылогія. У сіквелах з'явяцца іншыя вядомыя злодзеі-мутанты Бібап і Рокстэдзі.

**Настасся Уласава**



# Сіцылія: прыгожа, смачна і танна

«Сёння настаўніца геаграфіі сказала, што Італія падобная да бота. — Італія падобная да раю, гэта ты падобная да бота!» —«барадаты» анекдот не хлусіць. Італія — сапраўды тая краіна, куды хочацца вяртацца зноў і зноў.



Рынак у Палерма.

Бо кожны раз Італія розная. Менавіта ў Італіі знаходзіцца найбольшая колькасць аб'ектаў сусветнай спадчыны ЮНЭСКА: ажно 50. Поўнач не падобная да цэнтральнай часткі, Цэнтральная Італія не падобная да Паўднёвай. Гаворка пойдзе пра самы паўднёвы рэгіён Італіі — Сіцылію.

### Як дабрацца?

Дабрацца да найбуйнейшай міжземнаморскай выспы з Беларусі няцяжка. Лоўкост-авіялініі зрабілі калі не свет, дык Еўропу дакладна бліжэйшай да нас. Рэгулярныя рэйсы кампаніі Ryanair да Трапані лётаюць з літоўскага Каўнаса і Варшавы. Пералёт туды-назад абыдзецца прыкладна ў 100—150 еўра з чалавека.

### Дзе жыць?

На Сіцыліі няцяжка знайсці таннае жытло. Шукаць лепш праз сэрвісы кшталту Booking.com ці Airbnb. Аўтар гэтага матэрыялу патраціў на жытло за 7 начэй у трох розных гарадах 370 еўра. Аднак кошты, вядома, залежаць ад сезона. Самы гарачы месяц як у плане надвор'я, так і ў плане турыстычных выдаткаў — жнівень.

Трэба ведаць, што на Сіцыліі вельмі мала «традыцыйных» гатэляў. Жытло для турыстаў існуе ў выглядзе B&B (Bed&Breakfast, ці «ложак і сняданак»). B&B можна параўнаць з кватэрамі ці пакоямі на суткі для адной-дзвюх асоб. У B&B няма рэцэпцыі з адміністратарам, як у гатэлі, ды і можа не быць ніякага сэрвісу: пры засяленні вам даюць ключ — і рабі, што хочаш. Але перад гэтым уладальнікі апартаментаў захаплялна расказжуць вам пра ўсе цікавыя месцы, дадуць карту мясцовасці і карткі на знiжку ў рэстаранах і барах.

Такі спосаб пражывання надзвычай камфортны. Асабліва, калі ўдасца зняць пакой з кухняй. Тады можна не клапаціцца аб харчаванні, а закупіць прадукты ў найбліжэйшым супермаркеце і паспрабаваць прыгатаваць сапраўдную італьянскую пасту. Да таго ж з высокай верагоднасцю жыць давядзецца ў звычайным доме сярод італьянскіх сем'яў — атрымаецца поўнае пагружэнне ў культуру краіны.



Італьянскія сцяжкі ў Катаніі. Яны вісяць тут заўсёды, а не ў гонар нацыянальных святаў.

Аднак не забудзьцеся дамовіцца з супрацоўнікамі B&B аб часе засялення, вазьміце кантактны нумар тэлефона і электронную пошту, інакш можна ўперціся ў зачыненыя дзверы і пабегаць па горадзе ў пошуках ключа.

### Чым харчавацца?

Галодным на Сіцыліі застацца немагчыма — праблема ў тым, каб не аб'есціся. Італьянская кухня па праве лічыцца адной з самых дасканалых у свеце, ёй прысвечаная не адна сотня кніг. На Сіцыліі яна яшчэ і вельмі «хатняя».

У Італіі існуе сапраўдны культ аліўкавага алею, таму звыкніцеся з думкай, што ўсё будзе тануць і сачыцца ім: ці то салата, ці сандвіч з кулінарыі. Вядома, аснову харчавання любога італьянца складае паста, а піцу і паніні (італьянскі бутэрброд) можна набыць абсалютна паўсюль. Але на Сіцыліі варта зрабіць акцэнт на мясцовыя багацці: садавіну, гародніну, рыбу і морапрадукты.

Рыбы і морапрадуктаў сіцылійцы ядуць шмат, ды яны і вельмі танныя. На рыбных рынках (якія самі па сабе ёсць турыстычнай цікавосткай) прадаюць свежавылаўленую рыбу і працуюць амаль ад світанку. Цэны таксама ўражваюць. Кіло свежай рыбы ці морапрадуктаў каштуе 5—10 еўра. Гонар кожнага прадаўца — рыба-меч, галаву якой выкладаюць на лёд пікай уверх. Кілаграм гэтай дзіўнай рыбы каштуе 13 еўра.

У рэстаранах можна наесціся прыкладна на 10—15 еўра на чалавека без алкаголю. Цэны могуць вагацца ў той ці іншы бок у залежнасці ад рэстарана і яго папулярнасці ў турыстаў. Лепш усё ж харчавацца ў невялікіх рэстаранах для мясцовых: і смачна, і танна. Варта каштаваць пасту з морапрадуктамі, супы з малюскамі, рыбныя стэйкі. Асобна стаіць кускус — паўночнаафрыканская страва, якая вельмі папулярна і на Сіцыліі. У горадзе Сан Віта ла Капа праводзіцца нават фестываль кускусу.

Налягайце на садавіну! У параўнанні з Беларуссю яна каштуе проста нічога. Напрыклад, тры кілаграмы апельсінаў на рынку абыдуцца ў два еўра. Але такіх смачных і спелых апельсінаў у Беларусі наўрад ці можна знайсці. Спякотным днём цудоўна падмацавацца салатай. Наборы з зеляніны, таматаў, аліўкавага алею і воцату прадаюцца ў любой краме і каштуюць каля 2—3 еўра. У рэстаране салата ўдвая даражэйшая.

Калі захочацца перакусіць проста на вуліцы, любы сіцыліец вам адразу параіць аранчыні. Гэта традыцыйная мясцовая страва ўяўляе сабой даволі вялікі смажаны шар з рысу, унутры якога знаходзіцца рагу і сыр моцарэла.

### Што рабіць?

Самае галоўнае пытанне: што ж рабіць на Сіцыліі? Тут кожны вырашае для сябе, хоць Сіцылія задаволіць любы запыт. Выспа, абложаная Міжземным морам, мае сотні кіламетраў цудоўных пляжаў. Для пляжнага адпачынку лепш выбраць невялікі горад ці вёску на беразе мора. У іх няма праблем з вялікай колькасцю людзей, ды і адпачываюць у такіх месцах пераважна італьянцы ці еўрапейцы. Гатэлямі і кропкамі харчавання звычайна валодаюць сем'і, што пакіне надзвычай прыемнае ўражанне ад сэрвісу і якасці паслуг. У вялікіх гарадах таксама ёсць пляжы, але яны бруднейшыя і дабірацца на іх трэба транспартам.

Час пад пякучым сонцам, што ўдзень вісіць перпендыкулярна зямлі, цягнецца сапраўды павольна і лянотна. Аднак праляжаць увесь адпачынак на беразе мора — злачынства. Сіцылія вартая, каб падарожнічаць па ёй. Можна хадзіць у горы ці займацца скалалажаннем, можна замовіць прагулку на яхце ці паспрабаваць сябе ў віндсёрфінгу. Варта проста праехацца праз усю выспу, пагладзець на вінаграднікі і аліўкавыя гаі, на палі збожжа, што раскінуліся наўпрост на горных схілах.

Цікава будзе наведаць Эрычэ — некрануты сярэднявечны горад на гары вышынёю 750 метраў. Ад горада Трапані да яго можна дабрацца на фунікулёры ці аўтобусе. З Эрычэ адкрываюцца фантастычныя па сваёй прыгажосці панарамы.

Нельга пабыць на Сіцыліі і не ўзысці на Этну, самы высокі актыўны вулкан у Еўропе. Цэны на экскурсіі пачынаюцца ад 50 еўра. Але ўваход на турыстычныя сцежкі бясплатны, і калі вам нецікава слухаць пра гісторыю пра стадыі фармавання вулкана, можна ўзысці на Этну самастойна. На жаль, дабрацца з Катаніі да пачатку сцежак атрымаецца хіба што на ўласным аўтатранспарце. Пры гэтым не забудзьцеся цёплыя рэчы, капялюш і крэм для загару. На вышыні 2000 метраў прахладна, але сонца вельмі небяспечнае і можа лёгка апячы.

Таксама на Сіцыліі варта з'ездзіць у Сіракузы, радзіму Архімеда, ці наведаць дзіўны горад-крэпасць Эну, які месціцца на плоскай гары і дамы ў якім літаральна звісаюць з абрываў.

Што б вы ні рабілі на Сіцыліі, галоўнае — сплануйце гэта загадзя. Пачытайце форумы з парадамі для турыстаў, прадумайце свой маршрут і актыўнасць. Бо, на жаль, сіцылійцы дрэнна валодаюць англійскаю моваю і слаба накіроўваюць інфраструктуру на замежнікаў. Таму разбірацца на месцы будзе цяжка — лепш некалькі лішніх гадзін правесці ў кампаніі анлайн-перакладчыка, і тады незабыўны адпачынак вам гарантаваны.

**Кірыла Хілько, Трапані — Мінск**





У Мінску выбралі самую стылёвую роварыстку. Ёй стала малады фатограф Кацярына Дзмітрыева. У адборачным туры ўдзельнічала больш за 100 дзяўчат, якія хацелі пазмагацца за тытул «Велаледзі».

НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Спякотнае і сухое надвор'е апошніх дзён прывяло да таго, што некаторыя віды дрэў на вуліцах гарадоў пачалі зарана сохнуць і губляць лістоту. Да каляндарнай восені яшчэ больш за тры тыдні, але камунальнікі ўжо пачынаюць прыбіраць апалае лісце.



Пад Бранскам нарадзіўся мядзведзь-бландзін. Медзведзяня не з'явілася на свет альбіносам, пра што сведчыць яго карычневы нос — яму проста дасталася рэдкая афарбоўка.



Футбольны турнір памяці Генадзя Карпенкі выйграла аб'яднаная каманда сацыял-дэмакратаў, перамогшы ў фінале БАЖ. Перамогу яны прысвяцілі палітвязню Мікалаю Статкевічу. Усяго ў спаборніцтвах бралі ўдзел 12 каманд.

## Анекдоты і жарты

* * *

Бландзінка знайшла гранату і здае яе ў міліцыю.

— А дзе адсюль кольца?.. — слупянее міліцыянт.

— Я яго толькі што дастала. Можна я вазьму яго на ппа-а!!!

* * *

— Цель вашего визита в ЕС?

— Покушать.

* * *

Масква. 2014 год.

— Мідыі ёсць?

— Ёсць.

— Божа, але адкуль, іх нідзе ж няма.

— Беларускія.

— Але ў Беларусі...

— Бе-ла-рус-кі-я!..

— Зразумеў, 15 беларускіх мідый.

* * *

У цэнтры Масквы пытаюцца:

— Дзе знаходзіцца найбліжэйшы добры рыбны рэстаран?

— У Мінску.

* * *

2004 год. — Алё, ФСБ? — Так. — Мой сусед есць! — Ну і што? — Дык ён есць чорную ікру! — Ну і што? — Дык ён есць яе вёдрамі! — Выязджаем.

2014. — Алё, ФСБ? — Так. — Мой сусед есць! — Выязджаем.

* * *

Пасля ўвядзення Еўрасаюзам забароны на экспарт ботаксу Расія пайшла на сур'ёзныя саступкі ў пытанні Украіны.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Смерць Папежа.** 7 жніўня памёр Папеж Піус X. Каля поўдня Папеж утраціў мову, але яшчэ пазнаваў бывшых там, вечарам гарачка дайшла да 40 градусаў. Памершы Папеж радзіўся ў 1835 годзе ў беднай італьянскай вёсцы Рэзэ, лежачай недалёка ад Венецыі. Папежам быў 11 гадоў.

**«НН». №32. 1914.**

**Прэм'ер росту.** За прэм'ерам Сяргеем Сідорскім эканамічны рост у краіне дасягнуў 10 працэнтаў за год. Сідорскі задаволены сабой, сваёй пасадай і вынікамі працы. Прамысловасць і сфера паслуг растуць яшчэ хутчэй, чым ВУП. Даходы людзей перавысілі апошнія савецкія паказчыкі на 30%. Яшчэ трохі такога росту — і Сідорскага запомняць выбарцы, і палітолагам у самы час будзе задумацца: хто ён, прэм'ер Сідорскі?

**«НН». №30. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 12.08.2014.
Замова №3320.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14030